ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 13 (2415) 30 сакавіка 1995 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 100 рублёў.

*МІТРАПАЛІТУ ФІЛАРЭТУ 60 ГАДОЎ*

## УЛАДЫКА

Не ведаю, праўда гэта ці не, але давялося чуць, як падчас правядзення нейкага пратакольнага мерапрыемства на пытанне недасведчанага атэіста: "Скажыце, а як да вас звяртацца?" -- мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, свяшчэнна-архімандрыт Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра Філарэт адказаў: "Называйце мяне проста Уладыка". І сапраўды, гэты чалавек надзіва дакладна і поўна ўвасабляе ў сабе сэнс гэтага слова. Беларуская праваслаўная царква адзначае 60-годдзе свайго пастыра.

Мітрапаліт Філарэт (Кірыл Варфаламеевіч Вахрамееў) нарадзіўся ў Маскве 21 сакавіка 1935 года ў сям'і веруючых. Бацькі яго былі музыкантамі, і, напэўна, пад уздзеяннем панаваўшага ў доме свету музыкі ў 1953 годзе адначасова з сярэдняй школай ён скончыў і музычную па класу харавых спеваў і кантрабаса. Увосень 1953 года Кірыл Вахрамееў паступіў у Маскоўскую духоўную семінарыю, а ў 1957 -- Духоўную акадэмію. На другім курсе акадэміі ён вырашае прыняць манаства, і 3 красавіка 1959 года над ім быў здзейснены манаскі пастрыг з наданнем яму імя Філарэт у гонар святога праведнага Філарэта Міласцівага. Пасля заканчэння Маскоўскай духоўнай акадэміі іерадыякан Філарэт застаўся пры акадэміі ў якасці прафесарскага стыпендыята, а 14 мая 1966 года, ужо ў сане епіскапа Дзмітраўскага, вікарыя Маскоўскай епархіі, прызначаны рэктарам Маскоўскай духоўнай акадэміі. У 1973 годзе ён узначаліў кафедру архіепіскапа Берлінскага і Сярэднееўрапейскага, Патрыяршага Экзарха Сярэдняй Еўропы, а ў кастрычніку 1978 года Найсвяцейшы Патрыярх Пімен і Свяшчэнны Сінод прызначаюць Філарэта мітрапалітам Мінскім і Беларускім, Патрыяршым Экзархам Заходняй Еўропы. У кастрычніку 1989 года мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі Філарэт прызначаны Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі. 17 сакавіка 1990 года быў абраны народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь. За вялікія заслугі ў царкоўным, міратворчым і патрыятычным служэнні мітрапаліт Філарэт у розныя гады быў узнагароджаны ордэнамі святога князя Уладзіміра І і ІІ ступені, ордэнам прападобнага Сергія Раданежскага І ступені, удастоены вучоных ступеняў доктара багаслоўя Прэшэўскім багаслоўскім факультэтам і Дзяржаўным універсітэтам імя Марціна Лютэра ў горадзе Хале-Вітэнберг. 30 ліпеня 1993 года мітрапаліту Філарэту быў уручаны дыплом Ганаровага доктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта. 14 сакавіка гэтага года да пералічаных прызнанняў заслуг мітрапаліта прыбавіўся медаль Францыска Скарыны, якім ён быў узнагароджаны за шматгадовую плённую дзейнасць па адраджэнню, захаванню, развіццю духоўнай і культурнай спадчыны беларускага народа.



Такія асноўныя біяграфічныя звесткі пра гэтага чалавека. Аднак хочацца заўважыць, што спрабаваць скласці ўяўленне аб Уладыку, карыстаючыся тым, што пра яго напісана, ці яго прамовамі, выступленнямі, інтэрв'ю, -- справа няўдзячная. Паўстае вобраз зашпіленай на ўсе гузікі афіцыйнай асобы, якая вельмі часта гаворыць агульнымі фразамі. Цяжка сказаць, у чым тут справа -- можа быць, у выпрацаванай за гады бяспраўнага становішча царквы ўнутранай цэнзуры і звычцы ўзважваць кожнае слова, якое нехта можа няправільна вытлумачыць, царкоўнымі канонамі ці нечым яшчэ. Зразумела адно: Уладыка на паперы і Уладыка ў жыцці вельмі непадобныя, і наўрад ці можна скласці правільнае ўяўленне аб гэтым чалавеку ў адрыве ад яго асяроддзя -- царквы, якой ён служыць усё сваё свядомае жыццё. Калі глядзіш на тое, як ён праводзіць службу, разумееш, што перад табою сапраўды Уладыка чалавечых душ, пасрэднік паміж Богам і людзьмі, чыю асабістую ўвагу, тым не менш, адчувае кожны, хто знаходзіцца ў храме. Усе, хто блізка яго ведае, сярод зямных якасцей мітрапаліта адзначаюць яго дзіўную праніклівасць, увагу да людзей, выдатнае пачуццё гумару і гібкі розум, камунікабельнасць і дэмакратычнасць. Цікава заўважыць, што ўжо некалькі год на афіцыйных мерапрыемствах Уладыка звяртаецца да прысутных на беларускай мове, яшчэ раз тым самым пацвярджаючы, што інтэлігентны чалавек пры наяўнасці ўласнага жадання і з Божай дапамогай здольны пераадолець любыя перашкоды ў зносінах са сваім народам.

Калі прадстаўляецца магчымасць сказаць пра чалавека, якога даўно і бязмерна паважаеш, усе словы чамусьці пачынаюць падавацца збітымі і напышлівымі. Успомнілася, як у храме пасля сказаных Уладыкам слоў: "Мір вам!" у душы ўзнікла дзіўнае адчуванне міру і спакою, якія быццам бы і сапраўды прыйшлі на нашу шматпакутную зямлю.

Мы далучаемся да ўсіх добрых пажаданняў, якія прагучаць у гэты дзень, і гаворым Уладыку: "Многія лета!"

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**"Прэзідэнта часта папракаюць тым, што ён ідзе на канфрантацыю з Вярхоўным Саветам. Прайшло ўжо дастаткова часу, і ёсць магчымасць ва ўсім разабрацца і зрабіць пэўныя вывады. Таму я хацеў бы вылучыць шэраг ключавых момантаў ва ўзаемадзеянні Вярхоўнага Савета і Прэзідэнта, ад якіх залежаць гарантыі палітычнай стабільнасці ў нашым грамадстве, дынаміка выканання антыкрызісных мераў у эканоміцы і працэс фарміравання новай заканадаўчай улады ў рэспубліцы".**

*(З выступлення Прэзідэнта Аляксандра ЛУКАШЭНКІ на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 21 сакавіка 1995 г.).*

**Чытачы "Голасу Радзімы" з далёкага і блізкага замежжа, для якіх наша газета з'яўляецца адзінай крыніцай інфармацыі пра жыццё ў Беларусі, апошнім часам настойліва просяць: пішыце больш пра сучасныя падзеі на Радзіме. Будзем спадзявацца, што выступленне Прэзідэнта А. Лукашэнкі на сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі 21 сакавіка гэтага года дазволіць ім уявіць і зразумець тыя працэсы, якія адбываюцца сёння ў нашай дзяржаве.**

*(Чытайце выступленне Прэзідэнта "...Мы разам павінны быць адказнымі перад кожным грамадзянінам Беларусі" на стар. 4--5).*

ГУТАРКА З ДЫПЛАМАТАМ НА СВАБОДНУЮ ТЭМУ

## У БЕЛАРУСІ ЎСЁ Ж РЭКІ ЦЯКУЦЬ

**Пасля развалу Саюза амаль усе былыя савецкія пасольствы перайшлі ва ўласнасць Расіі і былі пераўтвораны ў расійскія. Перад маладымі суверэннымі дзяржавамі, якія толькі атрымалі незалежнасць, узніклі праблемы адкрыцця сваіх уласных прадстаўніцтваў і ўжо не толькі ў краінах далёкага, але і так званага блізкага замежжа. Акрамя эканамічных цяжкасцей, звязаных з набыццём будынкаў, утрыманнем штатаў, бадай, яшчэ больш актуальнае пытанне падрыхтоўкі кадраў. Доўгія гады амаль адзінай кузняй дыпламатаў на ўвесь былы Савецкі Саюз быў вядомы Маскоўскі інстытут міжнародных зносін. Іншай крыніцай "выхавання" падобных кадраў у савецкія часы былі ўрадавыя калідоры, адкуль непажаданыя чыноўнікі накіроўваліся ў дыпламатычную "ссылку".**

**Падобная практыка ўжываецца і дагэтуль. Таму, калі я трапіла ў беларускае пасольства ў Лондане, дзе сустрэлася з консулам пасольства Алегам ЯКАВІЦКІМ, не без прыемнасці для сябе адзначыла, што ён ніяк не адпавядае вобразу былога савецкага дыпламата.**

**Нашу краіну Беларусь у Вялікабрытаніі прадстаўляе высокаадукаваны, вельмі прыемны, з пачуццём гумару, веданнем этыкету, прыстойны малады чалавек (яму няма яшчэ і трыццаці), які сумленна робіць сваю справу. Дадам, што гэта не толькі мае асабістыя ўражанні, а і думка тых беларусаў і англічан, з якімі мне давялося сустрэцца ў Англіі. Ну а аб яго здольнасцях як дыпламата ў нейкім сэнсе можа сведчыць наша гутарка, якая і прапануецца ўвазе чытачоў "Голасу Радзімы".**

*-- Спадар Якавіцкі, вы працуеце ў пасольстве Беларусі ў Аб'яднаным Каралеўстве Вялікабрытанія з пачатку яго ўтварэння. Першаму заўсёды цяжка. Раскажыце, як усё пачалося?*

-- Я хацеў бы трошкі спыніцца на тым, як будаваліся наогул адносіны паміж Беларуссю і Брытаніяй. На пачатку стагоддзя сюды, у Брытанію, прыехалі два дыпламаты, якія прадстаўлялі ўрад БНР. Напярэдадні яны наведалі Германію, і, як вядома, урад Германіі прызнаў БНР. Тады яны паехалі шукаць падтрымку далей і так трапілі ў Вялікабрытанію. Але трагедыя і камедыя таго становішча была ў тым, што калі яны сюды прыехалі, тут было свята, і яны накіраваліся далей у ЗША. Пакуль ехалі, Саветы паспелі знішчыць БНР.

Праз шмат гадоў, толькі ў 1992 годзе, ужо пасля атрымання нашай дзяржавай незалежнасці, давялося двум нашым дыпламатам, сярод якіх быў і я, прыехаць у Брытанію на вучобу. Якраз у той час адбываўся чарговы з'езд беларусаў Вялікабрытаніі, на які мы трапілі і дзе нас шчыра віталі. Але прайшоў яшчэ год, пакуль была знойдзена магчымасць адкрыць у Лондане наша генеральнае консульства.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

АФІЦЫЙНА

## ПРЭЗІДЭНТ І ПРЭСА

**Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь унесена прапанова аб стварэнні Наглядальнага Савета пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь з удзелам у яго рабоце прадстаўнікоў грамадскасці.**

**Гэтым жа Указам за публікацыю матэрыяла пад рубрыкай "Пісьмо да Прэзідэнта" неўстаноўленага аўтара ў "Народнай газеце" за 10 сакавіка 1995 года, які заклікае да насілля і грамадзянскага процістаяння, вызвалены ад пасады галоўнага рэдактара гэтай газеты Сярэдзіч Іосіф Паўлавіч.**

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

## ВЫНІКІ ВІЗІТУ Ў ІРАН

**"Спробай пашырыць эканамічныя сувязі рэспублікі" назваў прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір на прэс-канферэнцыі 20 сакавіка паездку ўрадавай дэлегацыі ў Ісламскую Рэспубліку Іран. "Пры выбары свайго маршруту мы перш за ўсё зыходзілі з таго, -- заявіў ён, -- што ў Ірана былі даволі цесныя сувязі з былым Савецкім Саюзам, там знаёмы з тэхнікай, якую выпускаюць зараз ужо самастойныя дзяржавы СНД, тэхналогіямі, абсталяваннем -- яно ў немалой колькасці эксплуатуецца на прамысловых прадпрыемствах Ірана". Акрамя таго, гэтая дзяржава мае даволі значныя запасы нафты і адпаведны прыбытак ад яе рэалізацыі на сусветным рынку, паводле слоў Чыгіра, да 18 мільярдаў долараў у год. Вынікам наведання Ірана з перамоў з кіраўніцтвам краіны стала падпісанне шэрагу дакументаў. У іх ліку -- Мемарандум аб узаемаразуменні і супрацоўніцтве па пытаннях эканомікі, пагадненне аб бязвізавых паездках на дыпламатычных і службовых пашпартах, а таксама пагадненне паміж Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь і Цэнтральным банкам Ісламскай Рэспублікі Іран, накіраванае на спрашчэнне разлікаў паміж дзвюма дзяржавамі.**

БЕЗ ПЕРСПЕКТЫВЫ

## ПЕРАРЭГІСТРАЦЫЯ ПАРТЫЙ

**Паводле звестак Міністэрства юстыцыі, з 31 палітычнай партыі сёння зарэгістраваны толькі тры.**

**Зараз, паводле слоў начальніка ўпраўлення грамадскіх арганізацый міністэрства Міхаіла Сухіні, у стадыі разгляду знаходзяцца дакументы Партыі ўсебеларускага адзінства і згоды, Беларускай партыі жанчын "Надзея" і некаторых іншых.**

**Аднак, мяркуючы па ўсім, многія палітычныя партыі не змогуць набраць для перарэгістрацыі неабходныя 500 подпісаў -- яе тэрмін, згодна з пастановай Вярхоўнага Савета, заканчваецца 1 красавіка. М. Сухіня адзначыў, што, у адпаведнасці з артыкулам 28 Грамадзянскага кодэксу, юрыдычныя асобы, якія не прайшлі ў вызначаны тэрмін перарэгістрацыю, страчваюць юрыдычны статус.**

КЛОПАТЫ ХЛЕБАРОБАЎ



**Услед за гаспадаркамі палескага рэгіёна сяўбу яравых пачалі і земляробы больш паўночнага Камянецкага раёна Брэстчыны.**

**Палявыя работы ў калгасе імя Свярдлова пачаліся яшчэ ў сярэдзіне лютага. Вывозілі арганіку, даводзілі да высокіх пасяўных стандартаў насенне, правяралі пасяўныя агрэгаты. Цяпер прыйшла самая адказная пара. Земляробы сеюць авёс і ячмень. Усяго ж у гаспадарцы яравымі будзе занята 1 200 гектараў. Але калі праблема дызельнага паліва ў калгасе неяк вырашана, то на мінеральныя ўгнаенні сродкаў не знайшлося, а гэта значыць, што будзе недабор ураджаю.**

**НА ЗДЫМКУ: сяўба яравых у калгасе.**

РЭХА ПАДЗЕІ

## ВАКОЛ І. СЯРЭДЗІЧА

**"Іосіф Сярэдзічператварыў сваю газету ў кісцень, дубіну, у зброю процістаяння. Большасць крытычных матэрыялаў фальсіфікавалася і пісалася ў кабінетах рэдакцыі". Так пракаментыраваў знятае з пасады галоўнага рэдактара "Народнай газеты" саветнік прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Сяргей Посахаў.**

**А выканкам Аб'яднана-дэмакратычнай партыі Беларусі ў заяве адносна Указа прэзідэнта аб знятаці з пасады галоўнага рэдактара "Народнай газеты" І. Сярэдзіча адзначыў, што "гэты крок з'яўляецца грубым парушэннем закона: заснавальнікам "Народнай газеты" з'яўляецца Вярхоўны Савет, выканаўчая ўлада не мае да газеты ніякага дачынення, і, значыць, гэтае пытанне не ўваходзіць у кампетэнцыю прэзідэнта".**

**Удзельнікі семінара "Эканамічныя рэформы ў посткамуністычным грамадстве", які 17--18 сакавіка праходзіў у Міжнародным маладзёжным цэнтры "Юнацтва", таксама выступілі з заявай, у якой асудзілі дзеянні прэзідэнта.**

**"У сённяшняй Беларусі законы і грамадская думка адкрыта парушаюцца вышэйшай заканадаўчай асобай краіны", -- гаворыцца ў заяве.**

*"Усе мы родам з учора. Тая ж камуністычная партыя, якую мы прызнаем як палітычную сілу, мірачыся з умовамі часу, вымушана сёння згаджацца з неабходнасцю сацыяльна арыентаваных рынкавых пераўтварэнняў. Яна для павышэння папулярнасці ў народзе больш набывае твар сацыял-дэмакратыі.*

*Падвяргаюцца трансфармацыі і ідэі Беларускага народнага фронту, і калі б не абрэвіятура "БНФ", фронт, мусіць, пераўтварыўся б у Рэспубліканскую партыю. Прычым, яна была б не праварадыкальнай, як не многія спрабуюць уявіць у сувязі з узмоцненна прабіваемай фронтам ідэяй нацыянальнага адраджэння, а правацэнтрысцкай, паколькі ніякага антаганізму да прадстаўнікоў іншай нацыянальнасці ў БНФ няма і быць не можа".*

*Барыс ГЮНТЭР, сябра парламенцкай апазіцыі БНФ.*

ПЛЯМЫ ГІСТОРЫІ

## ДЗЕЛЯ ДРУЖБЫ

**Як стала вядома агенцтву РІД, на Мінскім картаграфічным прадпрыемстве знаходзіцца макет вучэбнай карты, якая асвятляе падзеі беларускай гісторыі XVI стагоддзя.**

**Па агульнапрынятай традыцыі на карце спецыяльнымі сімваламі абазначаны месцы важнейшых ваенных бітваў і побач -- даты прайшоўшых падзей.**

**Прадстаўнікі Міністэрства абароны катэгарычна не згодны з тым, што на гістарычнай карце адзначана і Аршанская бітва 1514 года. Гісторыкі ў пагонах прапануюць у гэтым месцы карты проста пакінуць "белую пляму", каб не азмрачаць "тысячагадовай дружбы беларускага і рускага народаў".**

САБЕ І СУСЕДУ

## НАФТА І ГАЗ

**Як сведчаць даныя Міністэрства статыстыкі краіны, за 1994 год магістральнымі трубаправодамі перапампавана 35,4 мільярда кубічных метраў газу і 70,4 мільёна тон нафты, што, адпаведна, на 5 і 6 працэнтаў больш, чым за 1993 год.**

**Для спажыўцоў Беларусі транспарціроўка нафты і газу з Расіі за гэты перыяд знізілася на 13 працэнтаў і склала 10,8 мільёна тон і 14,3 мільярда кубічных метраў.**

ДЫЯСПАРА

## БЕЛАРУСЫ Ў СІБІРЫ

**Мікола Сулкоўскі, прадпрымальнік з Новасібірска, -- адзін з арганізатараў суполкі "Беларусы Сібіры", якая нядаўна ўвайшла ў якасці калектыўнага сябра ў склад "Бацькаўшчыны". А не так даўно М. Сулкоўскі ахвяраваў кілаграм серабра на аднаўленне крыжа святой Ефрасінні Полацкай.**

**Падчас сустрэчы прадпрымальніка з кіраўніцтвам згуртавання былі абмеркаваны пытанні яднання нашых суайчыннікаў у далёкай Сібіры. Беларусаў у гэтым краі жыве вельмі многа. Гэта і высланыя ў розныя часы са сваёй Айчыны, і іхнія нашчадкі, і нашыя землякі, шмат якіх паехала на Усход на будоўлі ды нафтараспрацоўкі. Кіраўніцтва ЗБС "Бацькаўшчына" і прадстаўнік дыяспары абмеркавалі магчымасць і ўмовы стварэння новых беларускіх суполак ва ўсіх абласцях Сібірскага рэгіёна, а таксама пытанні, звязаныя з правядзеннем сустрэчы беларусаў Сібіры.**

ПРА НАС

## ШТО ГАЛОЎНАЕ Ў БЕЛАРУСА

**Нямецкі кінарэжысёр-дакументаліст Герд Руге пабываў у гарадскім пасёлку Арэхаўск Аршанскага раёна. Тут ён збіраецца здымаць фільм пра жыццё беларускай правінцыі. Герд Руге сустрэўся з жыхарамі, пагаварыў з імі аб жыцці-быцці, наведаўся ў крамы і бальніцу. Уражанні госця вельмі аптымістычныя: "Нягледзячы на цяжкае становішча эканомікі рэспублікі, беларусы па-ранейшаму застаюцца кантактнымі і добразычлівымі людзьмі, а гэта -- самае галоўнае".**

ІДЗЕМ У РЫНАК



**Усё большую папулярнасць заваёўваюць у Брэсце прыватныя аптэкі. Нядаўна на бульвары Гогаля адкрылася яшчэ адна. Узначаліла яе вопытны фармацэўт Галіна Дзенісюк. Многія гады яна працавала ў абласным вытворчым аб'яднанні "Фармацыя".**

**Перавага такіх аптэк відавочная. Тут заўсёды можна купіць ці заказаць неабходныя прэпараты. Цэны ў прыватнай аптэцы амаль нічым не адрозніваюцца ад цэн у дзяржаўных. А культура абслугоўвання тут на самым высокім узроўні. Сведчанне таму -- словы падзякі кліентаў.**

**НА ЗДЫМКУ: уладальнік аптэкі Галіна ДЗЕНІСЮК і фармацэўт Ірына ПЕТРАКОВА -- увесь калектыў аптэкі.**

ДА 50-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ

## ПАДАРУНАК ВЕТЭРАНАМ

**Не толькі кветкі атрымаюць удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны напярэдадні святкавання 50-годдзя Перамогі, але і сувеніры з юбілейнай сімволікай, выпуск якіх наладзілі многія прадпрыемствы Беларусі.**

**Брэсцкі завод "Цветатрон" НВА "Інтэграл" спецыяльна для салдат Перамогі выпускае музычныя паштоўкі "Мелодыя", якія выконваюць песні ваеннай пары: "Зямлянка", "У лесе прыфрантавым", "Эх, дарогі".**

РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

## ЗВАНЦЫ І ЦЭРКВЫ

**У Мазыры да дзеючых ужо Міхайлаўскага сабора і каталіцкага касцёла хутка дабавіцца яшчэ некалькі храмаў. Цяпер заканчваецца рэканструкцыя Свята-нікольскай царквы, пачата будаўніцтва Нова-Апостальскай і прынята рашэнне аб узвядзенні храма Андрэя Першазванага. У вёсцы Навасёлкі Петрыкаўскага раёна на ахвяраванні прыхаджан, а таксама пры дапамозе саўгаса "Навасёлкі" і калгаса "Прагрэс" пабудавана Свята-Вазнясенская царква. Яе настаяцель пачаў праводзіць тут не толькі багаслужэнні, але і адкрыў нядзельную школу для вернікаў.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

"ПОЛАЦКАЯ ГАЛІНА" -- так называецца беларускі літаратурны саюз, які нядаўна зарэгістраваны ў Міністэрстве юстыцыі. Пасля Саюза пісьменнікаў гэта другая літаратурная арганізацыя ў Беларусі.

ВІНАГРАДНЫЯ смаўжы -- беларускі далікатэс, які атрымаў высокую ацэнку на заходнім рынку. Ужо адпраўлена ў Еўропу больш за 5 тон вінаградных смаўжоў. Сабраны яны ў Брэсцкай і Віцебскай абласцях.

НА ПЛОШЧЫ Незалежнасці ў Мінску ў дзень адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета жыхар вёскі Вялікая Сліва Слуцкага раёна Сцяпан Самусевіч зрабіў спробу публічнага самаспалення. Міліцыя ратавала самагубцу, літаральна вырваўшы яго з вогненнага кола. Год назад на тым самым месцы Н. ужо спрабаваў такім чынам развітацца з жыццём.

НЕКАЛЬКІ грабежнікаў у масках наважыліся пранікнуць у Нацыянальны мастацкі музей Беларусі ў Мінску. Злачынцы прайшлі два паясы сігналізацыі, прабраліся да галоўнага пункта аховы, звязалі жанчыну-вартаўніка, адабралі ў яе зброю. Ды спраўна адрэагавау трэці пояс сігналізацыі. Грабежнікі ўцяклі, кінуўшы ўсе прылады. Мяркуюць, што грабеж быў заказным.

ВЫКЛІКАЕ трывогу стан папуляцыі лася ў Беларусі, зменшылася колькасць дзікоў, казуль, баброў. На гэтым адбілася пагаршэнне ўмоў жыцця звяроў, змяненне пашы пасля меліярацыйных работ. Павялічылася і колькасць браканьераў. А ваўкі, наадварот, хутка размнажаюцца, асабліва ў паўночных раёнах Беларусі.

КАЎБАСНЫ цэх пачаў работу ў вёсцы Бель, цэнтры калгаса імя XXII з'езда КПСС Крычаўскага раёна. Адсюль прадукцыя паступае ў калгасны магазін, дзе прадаецца без гандлёвых нацэнак.

# У БЕЛАРУСІ ЎСЁ Ж РЭКІ ЦЯКУЦЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

У гэтай справе нельга не адзначыць дапамогу і нашых суайчыннікаў. Вялікабрытанія на той час ужо адкрыла сваё пасольства ў Мінску. Менавіта гэты перыяд і можна разглядаць як усталяванне больш ці менш нармальных адносін паміж нашымі краінамі.

*-- Паколькі я прадстаўляю газету для суайчыннікаў за межамі Бацькаўшчыны, ці не маглі б вы больш падрабязна спыніцца на ўдзеле беларусаў Вялікабрытаніі ў адкрыцці консульства. Мне неаднаразова даводзілася чуць, што вось гэты будынак быў падараваны Янкам Дамінікам. Ці так гэта?*

-- Не, не зусім так. Тут бы я хацеў даць пэўныя тлумачэнні, бо было прыкра чытаць у газеце (здаецца, "Наша ніва"), дзе спадар Арлоў напісаў (чым нават пакрыўдзіў людзей), што Янка Дамінік аддаў будынак на 100 гадоў за шклянку піва. Такога не было. З Янкам Дамінікам, які толькі нядаўна адышоў у іншы свет, была толькі неафіцыйная дамоўленасць аб карыстанні будынкам, пакуль усталюемся і пакуль з'явяцца грошы, каб набыць уласны будынак. Вядома, нашы суайчыннікі зрабілі вельмі добрую справу для Беларусі. Яшчэ доўга тут не адкрылася б ніякае прадстаўніцтва, калі б не было добрай волі ўсёй беларускай суполкі, бо гэта было рашэнне не аднаго Янкі Дамініка.

Дадам, што ўрад зараз разглядае магчымасць набыцця будынка ў Лондане пад пасольства. Магчыма, гэта вырашыцца на працягу бягучага года, і тады ў нас з'явіцца нарэшце магчымасць шчыра падзякаваць беларусам Вялікабрытаніі і сям'і Янкі Дамініка (вечная яму памяць).

*-- Спадар Якавіцкі, вы прадстаўляеце краіну, якая пакуль мала вядомая ў свеце. Калі не браць афіцыйныя колы, дык пра яе існаванне нават не здагадваецца большасць англічан. У замежных газетах наогул можна прачытаць, што Беларусь штучна ўтворана бальшавікамі...*

-- Не, чакайце. Штучна ўтвораная дзяржава -- Бельгія, і пра гэта ўсе ведаюць. Там жывуць два, нават тры розныя народы. Мы ж жывем на зямлі, на якой беларусы жылі спрадвеку. Мы -- беларусы, людзі спакойныя і разважлівыя, але, калі трэба, можам за сябе і пастаяць. Неяк на адным з прыёмаў адзін рускі (здаецца, не вельмі адукаваны) увесь час пытаўся ў мяне, адкуль беларусы ўзяліся, хто мы такія ёсць і калі мы наогул былі незалежнымі. Мне нічога не заставалася, як адказаць, што я таксама не надта ўяўляю, адкуль з'явілася Расія, бо па гісторыі мы вывучалі Кіеўскую Русь, а зараз гэта Украіна. На жаль, далёка не ўсім вядома, што беларусы раней называліся ліцвінамі, а Літва -- Жмуддзю, што існавала Вялікае Княства Літоўскае, дзяржаўнай мовай якога была беларуская. Нашай жа мове не адно тысячагоддзе.

*-- На жаль, дагэтуль не ўсім гэта вядома і на радзіме. І вы добра ведаеце, чаму. Нават і сёння гісторыю Беларусі лепей вывучаць у Лондане ў Скарынаўскай бібліятэцы, што, дарэчы, і робяць цяпер нашы шматлікія навукоўцы, бо яна валодае тымі скарбамі, якіх няма пакуль на Бацькаўшчыне. Але я хацела запытаць вось пра што. Да мяне трапіў даведнік Лондана 1994 года выдання, але пасольства Беларусі ў ім я не знайшла, хоць усе іншыя там пазначаны...*

-- Мы ўжо ёсць у дыпламатычным зборніку, і гэта вельмі важна. На ўсіх картах, якія выходзяць тут, ужо пазначана: BELARUS. Быў выпадак (тутэйшыя беларусы мне яго падказалі), калі была выдадзена карта ў старым напісанні назвы нашай краіны — BYELORUSSIA. Я меў дачыненне з выдавецтвам, і памылка была выпраўлена. Будзем працаваць і зараз. Ёсць ужо кніга-даведнік на англійскай мове, з якой можна даведацца, хто ў нас хто. Выйшаў гістарычны даведнік Мінска Гая Пікарда. Але, наколькі мне вядома, спадар Пікарда не вельмі задаволены супрацоўніцтвам з беларускім бокам, які працаваў над выданнем гэтай кнігі. Таму я хацеў бы праз вашу газету звярнуцца да тых людзей, якія мелі дачыненне да кнігі, і, не ведаю як, але каб яны выправілі становішча.

Адзін я наўрад ці змагу шмат у гэтай справе зрабіць. У мяне вельмі абмежаваныя магчымасці ўсім напісаць і ўсім патлумачыць. Больш таго, тычыцца гэта далёка не адной Брытаніі. Напрыклад, на Эйфелевай вежы вісяць паказальнікі кіламетражу да розных краін, дык атрымліваецца, што ад Парыжа да Беларусі недзе 6 000(!) кіламетраў.

*-- Амаль каля Японіі.*

-- Так, не ведаю, з кім нас зблыталі, але гэта так. Працы тут шмат. Яе трэба рабіць супольна, а з другога боку, гэта павінна непакоіць кожнага беларуса ў свеце.

*-- Прыкладна год таму ў Вялікабрытанію быў прызначаны пасол, якім стаў Уладзімір Сянько і з якім вы працавалі, няхай вельмі нядоўга, да яго прызначэння на пасаду міністра замежных спраў Беларусі. Скажыце, што змянілася ў працы, калі статус консульства быў заменены на статус пасольства?*

-- Нават за той невялічкі тэрмін, што Уладзімір Сянько быў тут, яму ўдалося прафесійна наладзіць справу. Стаўленне да пасла ў Англіі вельмі сур'ёзнае і паважлівае, як да прадстаўніка дзяржавы. Тут ёсць разуменне, што пасол можа вырашаць шмат рэчаў. Адразу пасля прыезду Сянько меў аўдыенцыю ў каралевы. Ёй былі ўручаны вярыцельныя граматы. Вазілі пасла туды ў карэце.

Паступова і вельмі прафесійна пачаў ён арганізоўваць працу, як гэта мае быць. Адбыліся сустрэчы на ўсіх узроўнях: з прадстаўнікамі парламента, урада, Міністэрства замежных спраў, а таму адразу пайшлі шматлікія кантакты на ўсіх узроўнях. Мне было вельмі прыемна працаваць з такім чалавекам. Але мы, дыпламаты, людзі паднявольныя: куды нас пашлюць, там і будзем працаваць. Уладзімір Сянько атрымаў пасаду, вышэй якой для дыпламата няма.

*-- Дык што істотнага зроблена і што плануецца зрабіць для ўмацавання і пашырэння двухбаковых сувязей паміж Вялікабрытаніяй і Беларуссю?*

-- За гэты час былі падпісаны два важныя пагадненні: Аб эканамічным супрацоўніцтве і Аб абароне інвестыцый. Ёсць ужо ў нас таксама дамоўленасць з англійскім бокам аб паветраных зносінах, і напрыканцы сакавіка з дапамогай БЕЛАВІЯ плануецца адкрыць прамы рэйс паміж Мінскам і Лонданам. Зараз вядзецца інтэнсіўная праца з брытанскімі ўладамі на ўсіх узроўнях. Апошнім часам Англію наведала шмат дэлегацый з Беларусі, сярод якіх былі і дзяржаўныя візіты. У Лондан прыязджалі міністр абароны, было дзве парламенцкія дэлегацыі, адну з якіх узначальваў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Мечаслаў Грыб. Гэта быў першы афіцыйны візіт такога ўзроўню. Адбыліся сустрэчы ў брытанскім парламенце, дэпартаменце гандлю і прамысловасці, Еўрапейскім Банку рэканструкцый і развіцця, Міністэрстве замежных спраў, а таксама ў Вэстмінстэрскім гарадскім савеце. Апошнім быў візіт лідэра апазіцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі Зянона Пазьняка, які прыехаў у Лондан па запрашэнню ўрада Вялікабрытаніі. У Англіі да апазіцыі ставяцца вельмі паважліва. Адбыўся шэраг сустрэч з парламентарыямі, прадстаўнікамі палітычных партый, ва ўрадзе з міністрам Дугласам Хогам, які з'яўляецца таксама спецыялістам па Усходняй Еўропе. Вельмі цікавай была сустрэча з прадстаўніком урада, які адказвае за каардынацыю працы ўрада і парламента і які сочыць, каб заканадаўчыя акты, прынятыя парламентам, выконваліся і каб урадавыя чыноўнікі не займаліся палітыкай і г.д. Англія, як вядома, -- краіна традыцый, і таму традыцыйныя падыходы тут пераважаюць і ў кіраўніцтве дзяржавай. І калі нехта з нашых парламентарыяў кажа з гонарам аб прыняцці новай канстытуцыі, вялікабрытанцы не заўсёды добра разумеюць важнасць падзеі, бо яе тут наогул няма, але гэта не перашкаджае ім 400 гадоў ужо жыць ва ўмовах дэмакратычнай улады. Традыцыі -- вялікая справа.

*-- Ну а як вы садзейнічаеце пашырэнню эканамічных і гандлёвых сувязей? Ці гатовы брытанскія бізнесмены рабіць інвестыцыі ў беларускую эканоміку?*

-- Не, інвестыцыі для іх -- яшчэ цяжкі крок. Тым не менш, ёсць шмат людзей, якія разглядаюць магчымасць супрацоўнічаць і рабіць бізнес разам з намі. Хтосьці ўжо мае партнёраў, а нехта толькі шукае сувязі. У некаторых ёсць зацікаўленасць штосьці прадаваць ці нават набываць на Беларусі.

*-- Ці дапамагаеце вы англійскім фірмам атрымліваць інфармацыю, напрыклад, што купіць або што прадаць?*

-- Калі ёсць запыт на той ці іншы тавар, вядома, я імкнуся знайсці ім партнёра. Але бываюць больш складаныя пытанні, такія, як, напрыклад, каму падпарадкоўваецца Мазырскі нафтаперапрацоўчы камбінат. У такіх выпадках я магу толькі параіць ім звярнуцца непасрэдна на гэты камбінат, бо такой інфармацыі асабіста не маю.

Наколькі мне вядома, ужо існуе два ці тры сур'ёзныя прадпрыемствы, створаныя вядомымі брытанскімі кампаніямі ў Беларусі. Адна з іх -- "Белсел". Іх я назваў бы не "кітамі", а нават "акуламі", я падлічыў: цэны, што просяць яны за тыя мабільныя тэлефоны, амаль у дзесяць разоў перавышаюць тутэйшыя.

*-- Як вы думаеце, чаму?*

-- Мяркую, справа ў манапалізме, а "Белсел" -- зараз манапаліст на Беларусі. Яны могуць сабе дазволіць прасіць любыя цэны за сваю прадукцыю. Магчымасці выбіраць няма. Некалі ў Брытаніі была адзіная кампанія "TELECOM", але антыманапольны камітэт вырашыў, што павінна быць яшчэ адна кампанія. На Захадзе ў барацьбе за тарыфы заўсёды выйграе спажывец. Таму пасля ўтварэння іншай кампаніі, якая хоць і мела ўсяго 5 працэнтаў на рынку, цэны пачалі зніжацца. Тое ж самае павінна адбыцца і на Беларусі. А пакуль такога не будзе -- будзе існаваць, так бы мовіць, абдзіралаўка. Але гэта, даруйце, не мая сфера, таму далей каменціраваць не буду.

*-- Тады вернемся да вашай сферы. І скажыце, калі ласка, колькі брытанцаў наведала Беларусь у мінулым годзе і хто наогул едзе да нас?*

-- Прыкладна каля дзвюх тысяч. Ну а едуць у асноўным, як я сказаў ужо, бізнесмены, шмат дабрачынных арганізацый, якія вязуць лекі, іншую гуманітарную дапамогу і г.д.

*-- Па роду вашай дзейнасці ў вас шмат сустрэч з брытанцамі на розных узроўнях. Цікава было б даведацца, якія ў іх існуюць стэрэатыпы або асацыяцыі з Беларуссю.*

-- Ведаеце, я супраць такіх стэрэатыпаў, якія ёсць у нас, напрыклад, аб Брытаніі -- Туманны Альбіён, Біг Бэн або туманы. Мне вельмі хацелася б, і я раблю ўсё, што магу, каб англічане ведалі, што беларусы -- людзі вельмі працавітыя, разважлівыя, трывалыя. Аб гэтым сведчыць гістарычны вопыт. Шмат хто з англічан вельмі добра адгукаецца і аб нашых спецыялістах. Што ім незразумела, дык чаму мы не выкарыстоўваем свой навуковатэхнічны патэнцыял. Іх вельмі здзіўляе той факт, што многія з тых, хто ўчора ўдзельнічаў у распрацоўцы касмічных сістэм, сёння, у лепшым выпадку, збіраюць камп'ютэры.

*-- Калі вы былі на радзіме апошні раз?*

-- У мінулым жніўні, калі прыязджаў на штогадняе пасяджэнне прадстаўнікоў нашых пасольстваў і консульстваў. Два гады я не быў у адпачынку, і гэты тыдзень у Мінску мне вельмі спадабаўся. Была спякота. Многа сонца...

*-- А якія змены адразу кінуліся ў вочы?*

-- Вельмі шмат машын на вуліцах. Наогул адчуваўся нейкі пад'ём пасля выбараў прэзідэнта. Са мной прыехала група журналістаў, у якіх было шмат сустрэч на розных узроўнях -- яны збіраліся зрабіць даследаванне пра Беларусь "як краіну, дзе нічога не робіцца".

*-- Цікава, што яны мелі на ўвазе?*

-- Уявіце на хвіліну Прыпяць. Калі вы на яе глядзіце, такое ўражанне, што яна не цячэ, хоць вы і добра ведаеце, што яна ўсё ж цячэ. Гэта як катэгорыя нечага вечнага, пастаяннага. Вось так і жыццё ў Беларусі. На першы погляд, тут нічога не робіцца, але рыба тут усё ж нейкая плавае.

*-- Было б вельмі цікава пачытаць, што яны пра гэтую "рыбу" напісалі.*

-- Наколькі мне вядома, яшчэ нічога ў друку не з'явілася. Тут жа капіталізм, вы ведаеце, а таму ўсё звязана з камерцыяй. Да інтэрв'ю з лідэрамі краін яны павінны яшчэ знайсці і далучыць адпаведную рэкламу, і тады кніга пабачыць свет.

*-- Шчыры дзякуй за цікавую размову, спадар Якавіцкі. Поспехаў вам і плёну!*

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

**P.S. Гутарка адбылася на пачатку лютага падчас маёй стажыроўкі ў агенцтве "Рэйтар".**

*ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ*

## АПОШНІ ШАНЦ

Шаноўная рэдакцыя!

Вельмі ўдзячны вам за тое, што вы прысылаеце мне вашу газету. Але не толькі я, а і мае суседзі па дому і гораду, якім я перадаю "Голас Радзімы".

Кожны месяц я наведваюся на галоўпошту ў Львове, але да сёння яшчэ няма магчымасці выпісваць беларускія газеты. Як толькі наладзяцца валютныя рахункі паміж Украінай і Беларуссю, я згодзен поўнасцю разрахавацца і за папярэдняе надсыланне вашай газеты.

Мы з вялікай цікавасцю чытаем "Голас Радзімы".

Прашу вас прабачыць мяне за памылкі ў гэтым пісьме, з дзяцінства па волі майго драматычнага лёсу я жыву далёка па-за межамі Беларусі і таму недасканала валодаю роднай мовай.

Дужа ўдзячны вашай газеце за яе прасветніцкую місію, я так многа ўпершыню даведаўся праз яе з гісторыі нашага народа, нашай дзяржавы, і дужа хочацца, каб вы павялічылі колькасць паведамленняў пра сённяшняе становішча на Радзіме, пра эканамічныя, сацыяльныя, крымінальныя падзеі, гэта для нас сёння найгалоўнейшае.

З вялікім жалем і болем чытаем паведамленні аб тым, што Беларусь больш за ўсіх рэспублік былога Саюза зрусіфікавана, што беларуская мова і беларуская нацыя на мяжы вымірання, што маёмасць нашага народа распрадаецца.

У параўнанні з гэтым тут на захадзе Украіны ўсе ўкраінцы размаўляюць роднай мовай, усе кіраўнікі дзяржавы карыстаюцца дзяржаўнай мовай. Беларусь больш за ўсіх зрусіфікавана, але менш за ўсіх праводзіць працэс дэрусіфікацыі ў параўнанні з нашымі прыбалтыйскімі суседзямі і Украінай.

За апошняе стагоддзе 8 разоў нашы ўсходнія і заходнія суседзі дзялілі паміж сабой нашу зямлю, а колькі войнаў прайшло праз нашы вёскі і гарады, а колькі няшчасця і пакут прычыніў нам Чарнобыль!

**Белая Русь! Хто назваў цябе белай!!**
**Як чорная доля твая.**
**Колькі ты ліхалець перацярпела,**
**Колькіх воен арэнай была.**

Вось сёння з'явіўся момант стаць незалежнай дзяржавай, і, на правялікі жаль, яго не выкарыстоўваюць нашы кіраўнікі. Яны крычаць, што без Расіі Беларусь не выжыве, а чамусь Прыбалтыйскія дзяржавы і Украіна канчаткова адмежаваліся ад Расіі і застаюцца жывымі?!

Вельмі шкада, што гэта можа апошні шанц для Беларусі стаць незалежнай дзяржавай, і ён не выкарыстоўваецца.

**А. КАЖАРСКІ.**

г. Львоў.

# "...МЫ РАЗАМ ПАВІННЫ БЫЦЬ АДКАЗНЫМІ ПЕРАД КОЖНЫМ ГРАМАДЗЯНІНАМ БЕЛАРУСІ"

## ВЫСТУПЛЕННЕ ПРЭЗІДЭНТА А. ЛУКАШЭНКІ НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ 21 САКАВІКА 1995 г.

Паважаныя дэпутаты Вярхоўнага Савета!

Заканчваецца тэрмін вашых паўнамоцтваў, таму я вырашыў выкарыстаць свае права выступіць, магчыма, у апошні раз перад Вярхоўным Саветам. У адрозненне ад маіх папярэдніх зваротаў да вас, я, як Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, хацеў бы падвесці некаторыя вынікі нашай сумеснай работы са жніўня 1994 года -- гэта значыць з таго моманту, калі Прэзідэнт Рэспублікі прынёс прысягу і пачаў выкананне сваіх абавязкаў. Гэта важна яшчэ і таму, што Прэзідэнта часта папракаюць тым, што ён ідзе на канфрантацыю з Вярхоўным Саветам. Прайшло ўжо дастаткова часу, і ёсць магчымасць ва ўсім разабрацца і зрабіць пэўныя вывады. Таму я хацеў бы выдзеліць шэраг ключавых момантаў ва ўзаемадзеянні Вярхоўнага Савета і Прэзідэнта, ад якіх залежаць гарантыі палітычнай стабільнасці ў нашым грамадстве, дынаміка выканання антыкрызісных мераў у эканоміцы і працэс фарміравання новай заканадаўчай улады ў рэспубліцы. Я неаднаразова заклікаў Вярхоўны Савет да супрацоўніцтва ў гэтых пытаннях, аднак мае прапановы часта не ўспрымаліся вамі.

1. Спынюся на характары ўзнікшых адносінаў Прэзідэнта і Вярхоўнага Савета перш за ўсё ў галіне дзяржаўнага будаўніцтва, паколькі менавіта ў гэтай жыццёва важнай сферы ў большай меры выяўляюцца прыметы дэфармацыі канстытуцыйнага балансу галін улады.

15 сакавіка 1994 года Вярхоўны Савет прыняў новую Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Канстытуцыя вызначыла нашу краіну як унітарную, дэмакратычную, сацыяльную і прававую дзяржаву. Беларусь па Канстытуцыі стала прэзідэнцкай рэспублікай, заснаванай на прынцыпах поўнаўладдзя народа, раздзялення ўлад на заканадаўчую, выканаўчую і судовую, прыярытэту правоў і інтарэсаў асобы перад інтарэсамі дзяржавы.

Прайшоў ужо год пасля прыняцця новай Канстытуцыі. За гэты час быў уведзены інстытут прэзідэнцтва і адбыліся дэмакратычныя выбары першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, сфарміраваны новы ўрад -- Кабінет Міністраў, практычна закончана ўтварэнне так званай "прэзідэнцкай вертыкалі", гэта значыць сістэмы выканаўча-распарадчых органаў на месцах, створаны органы, якія забяспечваюць дзейнасць Прэзідэнта, такія, як Савет Бяспекі, Адміністрацыя Прэзідэнта і іншыя. Такім чынам, працэс дзяржаўнага будаўніцтва, звязаны з пераходам ад парламенцкай рэспублікі да рэспублікі прэзідэнцкага тыпу, па сутнасці завяршаецца. Няма сумненняў у тым, што гэты працэс праходзіў не заўсёды гладка. Пераўтварэнні ў галіне дзяржаўнага будаўніцтва яшчэ не сталі важным фактарам у рэалізацыі эканамічнай, палітычнай і сацыяльнай праграмы Прэзідэнта, паколькі не заўсёды зладжана дзейнічае сістэма выканаўчай улады як у цэнтры, так і на месцах. Мы бачым гэтыя недахопы і прымаем меры па іх ліквідацыі. Разам з тым, адной з важнейшых умоў для эфектыўных пераўтварэнняў у галіне дзяржаўнага будаўніцтва з'яўляецца характар узаемаадносінаў паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі, паміж Вярхоўным Саветам, Прэзідэнтам і Кабінетам Міністраў.

Як Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, я разумею, што ў перыяд рэалізацыі новых прынцыпаў узаемаадносінаў паміж рознымі галінамі дзяржаўнай улады магчымы пэўныя супярэчнасці, звязаныя з удакладненнем месца таго ці іншага інстытута дзяржаўнай улады ў агульнай сістэме дзяржаўных органаў, вызначэннем формаў іх узаемадзеяння, устанаўленнем прыярытэтаў у рэалізацыі паўнамоцтваў рознымі органамі дзяржаўнай улады. Аб'ектыўна існаванне такіх супярэчнасцей звязана са змяненнем формы дзяржаўнай будовы і заменай парламенцкай рэспублікі прэзідэнцкай, розным разуменнем нормаў новай Канстытуцыі, якія вызначаюць прававы статус Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета і іншых дзяржаўных органаў.

Хачу нагадаць, што па раней дзеючай Канстытуцыі народаўладдзе ажыццяўлялася ў асноўным праз сістэму Саветаў дэпутатаў, а Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, з'яўляючыся вышэйшым органам дзяржаўнай улады, меў права на падставе 97-га артыкула Канстытуцыі 1978 года разгледзець і вырашыць любое пытанне, якое адносіцца да ведання рэспублікі. Усе астатнія дзяржаўныя органы былі падкантрольныя ці падсправаздачныя Саветам народных дэпутатаў. Вярхоўны Савет фарміраваў Савет Міністраў -- вышэйшы выканаўчы і распарадчы орган, іншыя вышэйшыя дзяржаўныя органы -- Вярхоўны суд, Вышэйшы гаспадарчы суд, назначаў Генеральнага пракурора, старшыню Кантрольнай палаты. Мясцовыя Саветы народных дэпутатаў утваралі выканаўчыя і распарадчыя органы, выбіралі суддзяў гарадскіх і раённых народных судоў і г. д. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 года ўстанавіла іншы падыход да характару ўзаемаадносінаў паміж дзяржаўнымі органамі, пабудаваны на прынцыпе раздзялення ўлад, у рамках якога ўсе дзяржаўныя органы ў межах сваіх паўнамоцтваў самастойныя, стрымліваюць і ўраўнаважваюць адзін аднаго. Я спецыяльна звярнуў вашу ўвагу, паважаныя дэпутаты Вярхоўнага Савета, на параўнанне палажэнняў старой і новай Канстытуцыі. Справа ў тым, што пры вызначэнні новага парадку ва ўзаемадзеянні дзяржаўных органаў, між імі магчымы спрэчкі аб кампетэнцыі, характары і формах іх адносінаў, механізме вырашэння канфліктаў. Ёсць і іншыя прычыны, чыста суб'ектыўнага характару. Для вас не сакрэт, што пры распрацоўцы Канстытуцыі і, у прыватнасці, пры вызначэнні такой формы дзяржаўнай будовы, як прэзідэнцкая рэспубліка, Вярхоўны Савет арыентаваўся на канкрэтную кандыдатуру на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У многім пад гэту кандыдатуру і быў падрыхтаваны раздзел 4 Канстытуцыі, які вызначае прававы статус і кампетэнцыю Прэзідэнта. Аднак той Прэзідэнт, які быў запраграміраваны большасцю цяперашняга саставу Вярхоўнага Савета, не быў выбраны. На выбарах народ выказаў іншую думку, і гэта яго безумоўнае права, якое абавязаны паважаць усе структуры дзяржаўнай улады, палітычныя партыі і грамадскія аб'яднанні пры ўмове, калі існуе шчырая воля ўстанаўлення ў Беларусі сапраўды дэмакратычных традыцый, дзе думкі большасці і кожнага грамадзяніна вышэй за ўсе. Аднак непахісны, я сказаў бы, -- дзяржаўны суб'ектывізм многіх дэпутатаў, які склаўся яшчэ ў час прыняцця Канстытуцыі, да гэтага часу захаваўся і, на жаль, выступае асновай многіх не заўсёды вывераных дзеянняў Вярхоўнага Савета.

Я не хацеў бы цяпер аналізаваць змест выступленняў асобных дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія датычаць як Прэзідэнта, так і службовых асоб Кабінета Міністраў, адміністрацыі, Кіраўніцтва справамі. Разам з тым не магу не адзначыць, што шэраг выступленняў дэпутатаў Вярхоўнага Савета адносна ўказаных асоб часта носіць зневажальны характэр, далёкі ад канструктыўнай крытыкі. Але гэта пытанне этыкі паводзінаў некаторых дэпутатаў, і я не буду на ім спыняцца. А хацеў бы звярнуць вашу ўвагу на наступнае. Перш за ўсё, пытанне захавання этычных нормаў, я нават сказаў бы -- простай чалавечай маралі ў паводзінах асобных дэпутатаў непасрэдна звязана з маральнасцю Вярхоўнага Савета як вышэйшага заканадаўчага органа дзяржавы. І гэту прамую ўзаемасувязь нельга не заўважыць асабліва ў апошні час. У выступленні па Закону "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь" мной ужо ўказвалася, што ў заключнай стадыі сваёй работы дэпутаты вызначылі для сябе гарантыі, несувымерныя з узроўнем сацыяльнай абароненасці ўсяго народа Беларусі. Тыя папраўкі, якія былі затым унесены ў Закон аб Вярхоўным Савеце пасля выступлення Прэзідэнта, істотна не змянілі аб'ём і характар дэпутацкіх ільгот. У гэтай сувязі прапаную дэпутатам Вярхоўнага Савета падумаць таксама і аб іншым. Як вы добра памятаеце, у кастрычніку 1993 года Вярхоўны Савет прыняў Заяву "Аб неабходнасці паскарэння канстытуцыйных пераўтварэнняў у Рэспубліцы Беларусь". Ва ўказанай Заяве Вярхоўны Савет адзначыў, я цытую: "Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь бачыць сваёй галоўнай задачай прыняцце не пазней за 1993 год Канстытуцыі (Асноўнага закона) Рэспублікі Беларусь і правядзенне ў сакавіку 1994 года выбараў у новы вышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь".

Прывяду вам яшчэ адзін дакумент -- Заяву Прэзідыума Вярхоўнага Савета, на гэты раз ад 11 лютага 1994 года. Зноў цытую: "Прэзідыум Вярхоўнага Савета лічыць, што, не стварыўшы неабходнай прававой базы, не прыняўшы законы аб дзяржаўнай будове, аб выбарах кіраўніка дзяржавы і выканаўчай улады, праводзіць новыя выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь нельга, іншы шлях прывядзе да хаосу і развалу дзяржавы.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета заяўляе аб сваёй цвёрдай рашучасці дабіцца на бягучай сесіі (г. зн. на трынаццатай) падтрымкі народнымі дэпутатамі прапанаваных мераў па ўмацаванню дысцыпліны, парадку і законнасці, ажыццяўленню рэформаў у сферы дзяржаўнага будаўніцтва, прыняцця новай Канстытуцыі, правядзення ў першым паўгоддзі 1994 года ўсенародных выбараў кіраўніка дзяржавы і выканаўчай улады" -- і далей падкрэсліваю, -- "у другім паўгоддзі -- выбараў у Вярхоўны Савет, а ў сакавіку 1995 года -- выбараў у мясцовыя Саветы народных дэпутатаў. Тым самым будуць забяспечаны на аснове законаў пераемнасць улады і стабільнасць у грамадстве, удзел усяго насельніцтва ў абнаўленні дзяржаўных органаў".

Я свядома прывёў гэтыя другія цытаты з заяў Вярхоўнага Савета і яго Прэзідыума. Што ж атрымалася ў выніку гэтых заяў? Нічога. Выбары ў Вярхоўны Савет не былі праведзены ні ў сакавіку 1994 года, ні ў другім паўгоддзі 1994 года. Выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў таксама не былі назначаны на сакавік 1995 года. Уся бяда ў тым, што, прымаючы ўказаныя заявы, і дэпутаты, і члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета не думалі аб маральнай адказнасці за іх рэалізацыю. Аднак і гэта не галоўнае, хоць на гэтым пытанні я пазней спынюся.

Галоўнымі пытаннямі ўзаемаадносінаў паміж Вярхоўным Саветам і Прэзідэнтам у апошні час сталі працэсы пабудовы на аснове новай Канстытуцыі сістэмы органаў улады і кіравання як у цэнтры, так і на месцах, а таксама рэалізацыі асноўных палажэнняў Праграмы па выхаду эканомікі Рэспублікі Беларусь з крызісу.

Гаворачы аб першым блоку пытанняў, вымушаны адзначыць, што ў прынятых у апошні час законах "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь", "Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь", "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь" зроблена спроба парушыць баланс улад, замацаваны ў Канстытуцыі. Так, напрыклад, у Законе "Аб Вярхоўным Савеце" ёсць шэраг нормаў, якія абмяжоўваюць правы выканаўчай улады і ў пэўнай меры не адпавядаюць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Да іх адносяцца нормы, што вызначаюць кампетэнцыю Вярхоўнага Савета (артыкул 9 закона), паўнамоцтвы Вярхоўнага Савета адносна ўласнасці (артыкул 10), абавязковую сілу пастаноў Вярхоўнага Савета без устанаўлення кола пытанняў, па якіх яны прымаюцца (артыкул 54). Павінен заўважыць, што шэраг палажэнняў Закона "Аб Вярхоўным Савеце", якія супярэчаць Канстытуцыі, ліквідаваны самім Вярхоўным Саветам пры прыняцці Закона "Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь".

Аднак склалася парадаксальная сітуацыя: спачатку Вярхоўны Савет кваліфікаванай большасцю галасоў адхіліў усе папраўкі Прэзідэнта да Закона "Аб Вярхоўным Савеце", а потым, пасля ўступлення закона ў сілу, многія прапановы Прэзідэнта ў той або іншай рэдакцыі былі ўсё-такі часткова ўлічаны. Ці дапушчальная такая лёгкасць у заканатворчай дзейнасці вышэйшага заканадаўчага органа дзяржавы, які павінен, здавалася б, быць узорам бескарыслівага служэння свайму народу?

Адначасова з неабгрунтаваным павелічэннем сваіх паўнамоцтваў, расшырэннем правоў і льгот дэпутатаў Вярхоўны Савет у Законе "Аб Прэзідэнце" зрабіў спробы абмежаваць паўнамоцтвы Прэзідэнта ў частцы выдання нарматыўных актаў па пытаннях арганізацыі і дзейнасці выканаўчай улады, стварэння рабочых органаў пры Прэзідэнце і вызначэння іх кампетэнцыі. Таксама выклікае неўразуменне жаданне Вярхоўнага Савета замацаваць у Законе "Аб Прэзідэнце" палажэнне аб тым, што ў выпадку часовага невыканання Прэзідэнтам сваіх абавязкаў па стану здароўя паўнамоцтвы Прэзідэнта пераходзяць да Старшыні Вярхоўнага Савета.

Яшчэ больш незразумелая пазіцыя Вярхоўнага Савета ў сувязі з унясеннем змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь". На падставе заключэння Канстытуцыйнага суда ўказаным законам быў адноўлены пярвічны ўзровень мясцовых Саветаў дэпутатаў. Аднак пры гэтым быў зменены асноўны прынцып Закона аб мясцовым кіраванні і самакіраванні -- прынцып раздзялення на мясцовым узроўні функцый прадстаўнічай, выканаўчай і судовай улад. Папраўкай да артыкула 11 Закона аб мясцовым кіраванні і самакіраванні былі аб'яднаны пасады старшыні Савета і старшыні выканкома на пярвічным тэрытарыяльным узроўні. Такім чынам, папраўка да артыкула 11 Закона "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь", па-першае, не адпавядае прынцыпу раздзялення прадстаўнічай, выканаўчай і судовай улад; па-другое, змяняе парадак назначэння кіраўнікоў выканаўчых камітэтаў пярвічнага ўзроўню і тым самым супярэчыць прынцыпу адзінства і цэласнасці сістэмы мясцовага кіравання і самакіравання.

Я не буду больш спыняцца на законах, прынятых Вярхоўным Саветам у галіне дзяржаўнага будаўніцтва. Асобныя з іх не адпавядаюць Канстытуцыі, напрыклад, Закон Рэспублікі Беларусь "Аб суадносінах актаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якія маюць юрыдычныя вынікі", у прыватнасці, у сферы прызнання аднолькавай юрыдычнай сілы за законамі і пастановамі Вярхоўнага Савета, іншыя наўрад ці могуць быць выкананы з-за адсутнасці сродаў для іх рэалізацыі. У апошнім выпадку размова ідзе аб шэрагу заканадаўчых актаў, якія вызначаюць дадатковыя гарантыі для розных катэгорый насельніцтва: гэта Законы "Аб Вярхоўным Савеце", "Аб унясенні змяненняў у Закон аб асновах службы ў дзяржаўным апараце", "Аб унясенні змяненняў у Законы аб Пракуратуры і Канстытуцыйным судзе", "Аб судовым ладзе і статусе суддзяў" і многія іншыя.

Узнікае заканамернае пытанне, чаму так складана ідзе працэс дзяржаўнага будаўніцтва ў нас у рэспубліцы, нягледзячы на тое, што прынята новая Канстытуцыя Беларусі?

Па-першае, як мне ўяўляецца, Вярхоўны Савет страціў часавыя арыенціры ў сваёй працяглай і не заўсёды паслядоўнай дзейнасці. Выбраны яшчэ ў камуністычную, саюзную эпоху і адначасова пахаваўшы яе, ён апынуўся сам-насам з вельмі цяжкай праблемай будаўніцтва ўласнай дзяржавы. Балансуючы ў складанай павуціне вырашэння дзяржаўных, палітыка-эканамічных і сацыяльных пытанняў, ён аказаўся не заўсёды гатовым да вызначэння галоўных і другарадных задач. У выніку гэтага спакуса дзяржаўнага эгаізму асабліва відавочна праявілася на фінішным этапе работы Вярхоўнага Савета.

Па-другое, прыняцце ў спешным парадку Канстытуцыі, Асноўнага закона Рэспублікі Беларусь, не шляхам рэферэндуму, а самім Вярхоўным Саветам выклікала ў дэпутатаў адчуванне сваіх неабмежаваных магчымасцей. Адсюль праблема магчымага замаху на Канстытуцыю з боку самога Вярхоўнага Савета ўзнікла ў дзень яе прыняцця.

І па-трэцяе, да завяршэння сваіх паўнамоцтваў Вярхоўны Савет падышоў у вельмі разбалансаваным стане. У гэтым ёсць і аб'ектыўныя, і суб'ектыўныя прычыны. Далёка не ўсе дэпутаты змаглі вытрымаць пяцігадовы марафон з высокім пачуццём адказнасці за лёс народа Беларусі. Пастаянна паўпустая зала пасяджэнняў Вярхоўнага Савета -- аб'ектыўны паказчык дзеяздольнасці і маральнага патэнцыялу дэпутацкага корпуса на завяршальным этапе яго работы.

Пры вырашэнні важных і складаных дзяржаўных пытанняў, каб забяспечыць кворум, дэпутаты галасуюць адзін за аднаго, не задумваючыся аб маральным боку такой легкадумнасці ў заканатворчасці. Ёсць і юрыдычны бок гэтага пытання. Галасуючы за адсутных, дэпутаты парушаюць артыкул 84 Канстытуцыі, які прадугледжвае абавязак асабістага галасавання. У такіх умовах дэзарганізаванасці я па-чалавечы разумею тых дэпутатаў, якія з этычных, відаць, меркаванняў наогул перасталі наведваць пасяджэнні Вярхоўнага Савета і заняліся сваёй звычайнай работай на вытворчасці.

2. Узаемаадносіны Вярхоўнага Савета з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у галіне дзяржаўнага будаўніцтва не могуць не адбівацца на іх узаемадзеянні ў сферы вырашэння важнейшай эканамічнай праблемы -- выхаду рэспублікі з крызісу.

Я думаю, дэпутаты разумеюць, што ў вырашэнні эканамічных і сацыяльных пытанняў мы знаходзімся на хісткім, вельмі тонкім лёдзе. Пры неймаверных намаганнях у пабудове правільнай палітыкі з Расіяй, дзе асноўныя нашы энерганосьбіты, нам удалося без асаблівых страт перажыць зіму, стабілізаваць рубель, не дапусціць значнага спаду прамысловай вытворчасці і стварыць умовы для правядзення пасяўной кампаніі. Тэмпы, уся арганізацыя пасяўной -- выключна важны этап у дасягненні больш трывалай стабілізацыі эканомікі на ўвесь бягучы і першую палову будучага года. Я сказаў бы, што гэта экзамен устойлівасці нашай дзяржавы, правільнасці выбранага курсу вываду рэспублікі з крызісу. Энергічнае правядзенне пасяўной кампаніі, канкрэтныя меры дзяржавы пасля абагравальнага сезона, калі настане паўгадавая паўза ў расходаванні буйных аб'ёмаў энергарэсурсаў, дадуць магчымасць стварыць базу для ўмацавання фінансавай і эканамічнай стабільнасці на бліжэйшую перспектыву. У рамках дасягнення такой стабільнасці мы разлічваем дабіцца парытэту цэн у сельскай гаспадарцы і за кошт гэтага пачаць змяненне інфраструктуры вёскі. Ва ўмовах рэальна дзеючых беларуска-расійскіх дагаворанасцей мы разлічваем на паступовае аздараўленне прамысловай вытворчасці за кошт ліквідацыі мытных падаткаў і пошлін, аднаўлення міжгаліновых і міжвытворчых сувязей з Расіяй, іншымі дзяржавамі СНД. Стабілізацыя, безумоўна, павінна быць не за кошт народа, а ў імя паляпшэння жыцця людзей. Менавіта таму Прэзідэнт і Кабінет Міністраў не маюць намеру неабгрунтавана павялічваць тэмпы пераходу да рынку за кошт згортвання сацыяльных праграм для насельніцтва і перш за ўсё -- шматлікіх груп пенсіянераў. Сацыяльная абарона грамадзян будзе мець адрасны характар і грунтавацца на спалучэнні стрымлівання цэн з боку дзяржавы і павышэння ўзроўню даходаў насельніцтва.

Ключавым фактарам, які вызначае прыярытэтныя напрамкі ў развіцці эканамічных адносінаў, з'яўляецца наяўнасць дастатковай заканадаўчай базы для сацыяльна арыентаваных эканамічных рэформаў. За 5 гадоў сваёй дзейнасці Вярхоўны Савет прыняў нямала законаў і пастаноў,

*НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# НЕ ПАМРУ, ПАКУЛЬ ЛЮБЛЮ

Прызнацца, ёсць у мяне асабістае, канешне ж, суб'ектыўнае вымярэнне значнасці высілкаў таго ці іншага паэта. Калі частыя кніжныя яго сустрэчы з чытачом, то з'яўляецца пэўная трывога: а ці па вялікаму рахунку шчырасці вядзе паэт з намі дыялог і ці ў кожным радку -- душа і сэрца? Затое ж з вялікай ахвотай здымаю з паліц кнігарань кнігі тых творцаў, якія не спяшаюцца з вершаванымі адкрыццямі, таму кожны з іх зборнікаў -- светлае спадзяванне на таямнічае судакрананне з асобай. У шэрагу такіх аўтараў -- і Алесь Пісьмянкоў. На адной руцэ, мусіць, больш пальцаў, чым выдадзена кніг гэтага таленавітага паэта.

Цяперашняя сустрэча з Алесем Пісьмянковым -- кніга вершаў "Планіда". Што ні твор, усюды, у кожнай страфе, у кожным радку праяўляецца адкрытасць, якая рашуча, настойліва апаноўвае увагай, эмоцыямі, перажываннямі. Чаму такі давер? Няўжо толькі ад жадання рэдкіх сустрэч? Безумоўна, не. Гэта хутчэй вонкавае, на справе ж усё больш складана. Сімпатыі да паэтычнай планіды Алеся Пісьмянкова грунтуюцца на выразным аўтабіяграфічным прачытанні рэчаіснасці. Паэтычная прызма аўтара "Планіды" ёсць грунтоўнае суладдзе аналізу ўласнага лёсу і лёсу ўсяе краіны, яе народа.

**Ён дагэтуль мне ў**
**горле пяршыць**
**І вядзе за сабою да крамы.**
**"Дайце нам на**
**чатыры душы", --**
**Хлеб купляе ў крамніка мама.**

*("Успамін").*

Паэт не проста ўспамінае нешта з свайго маленства, аўтар "Планіды" праецыруе сутнаснае, каштоўнае на будзённыя і бытавыя калізіі, акалічнасці. І, уважліва назіраючы за накірункам святла ад паэтычных праменяў Алеся Пісьмянкова, спакваля вылучаеш у традыцыйных, пачуццёвых вершах ("Я даўно ужо навучан: Традыцыйна, каб -- жыццёва, пачуццёва, бо -- балюча...") лаканічную, ціхмяную грамадзянскасць. Прызвычаіўшыся дзесяцігоддзямі атаясамліваць гэтую рысу з псеўдапатрыятычнымі, рытарычнымі вершамі-агіткамі, дзе галоўнымі героямі выступалі, як правіла, партыя і яе правадыры, мы забыліся на сутнаснае, сапраўднае вымярэнне грамадзянскасці. Нават сціплы слоўнікавы артыкул ("Грамадзянскасць... Усведамленне сваіх правоў і абавязкаў у адносінах да дзяржавы; грамадзянская арганізаванасць і дысцыплінаванасць") дае падставы разгледзець і асэнсаваць месца і значэнне грамадзянскасці ў свеце чалавечых зносін, у жыцці чалавека. Грамадзянскасць для Алеся Пісьмянкова -- гэта і вызначэнне сваёй уласнай задачы, з якою паэт прыйшоў у свет. Прыйшоў на часіну...

**Я вершы крэмзаю ўначы,**
**Я расказаць хачу пра род,**
**Пра вечны клопат на сяўбе...**
**Пра іх пішу каторы год,**
**Пра іх і пра сябе.**

*("Замест аўтабіяграфіі").*

Адраджэнне Беларусі, вяртанне народу нацыянальнай свядомасці не ёсць працэс механічны. Ды і ўвогуле духоўныя зрухі не маюць вонкавага вымярэння. І паэт гэта разумее, робіць акцэнт на іншым. Аўтар "Планіды" імкнецца разабрацца ў ранейшым, у тым, што ж прывяло нас у абездухоўленае, маральна разбэрсанае сёння. Пра гэта -- і ў вершах "Царква" ("Яна стаяла без званоў, Казалі, звон зняў Іваноў. Я добра помню Іванова. Згасаў, як свечка, ён і сох"), "Вяртанне" ("Славянскае, ўрачыстае, Узнімаецца з глыбінь, Нібы малітва чыстая, Што ўспомніў блудны сын"), "Насовіч. 1870" ды і ў іншых творах, што складаюць кнігу "Планіда". Грамадзянскасць таленавіты лірык атаясамляе з беларускасцю. Робіць гэта паэт эмацыянальна, з глыбокай унутранай, шчырай любоўю ў кожным слове. І разам сустракаюцца радасць і смутак, шчасце і шчымлівы боль:

**І ў Хоцімску,**
**і ў Тураве,**
**і ў Глуску**
**Адно сумуем мы**
**па-беларуску.**
**На жаль, на свеце**
**ўсё нявечнае**
**І ўсё на свеце незваротнае,**
**А намі столькі ўжо знявечана**
**Свайго,**
**святога,**
**роднага!**

*("І ў Хоцімску, і ў Тураве, і ў Глуску").*

Алесь Пісьмянкоў -- паэт імпульсіўна-эмацыянальнага складу. Гэта адчуваецца ў кожным з твораў кнігі "Планіда". І ў такой рысе-характарыстыцы хіба ж не самае прыцягальнае ўвогуле ў паэзіі? Хіба ж не душу, яе перажыванні, яе адкрытасць шукаем мы ў кнігах вершаў? Заўважце, імпульсіўнае ўзрушэнне, што перадаецца ад паэта і чатачу, пераходзіць з верша ў верш. У "Планідзе" няма слабых твораў. Усе вершы -- адна арганічная лінія, як быццам распачатая з верша "Успамін" і аж да апошняга ў кнізе твора:

**Вада. На строме сосны.**
**У збажыне задумны гай.**
**Любіць бы вечна гэты край.**
**Журботны.**
**Родны.**
**Росны.**
**Любіць высокія аблокі,**
**Ад гора горкую зямлю...**
**Любіць прызначана**
**мне лёсам:**
**Я не памру,**
**пакуль люблю.**

*("... Вада. На строме сосны...").*

Многія вершы з новай кнігі Алеся Пісьмянкова бы тыя імгненныя ілюстрацыі-думкі ці хутчэй -- думкі-вобразы ("...Мне пяро гусінае...", "... Шукаць гармоніі і згоды...", "Акварэль", "Візітоўка"). Але ні ў якой ступені гэтыя кароткія вершы не ўспрымаюцца як адны толькі накіды да твораў, часцінкі разваг, незавершаныя асэнсаванні ўбачанага, разгледзенага жыцця. Вось калі ўпэўніваешся, што лаканічнасць здольная нарадзіць прасторнае, шырокае мысленне. Але ж і сіла ў лаканічнасці павінна быць неардынарная. У лаканічнасці павінна прысутнічаць надзвычайная энергія паэтычнага бачання свету. Мажліва, такая энергія і ёсць грамадзянскасць, любоў паэта да Айчыны і боль за яе лёс...

**Я веру, Божа,**
**Што нас не кінеш,**
**Што ты паможаш**
**Маёй Айчыне.**
**Паможаш маці,**
**Паможаш роднай,**
**На ногі ўстаці**
**У час гаротны.**
**І дабрадзею,**
**І ліхадзею**
**Дасі надзею,**
**Дасі надзею...**

*("Вячэрняя малітва").*

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# БЕЛАРУС ЯН КУЗМІЦКІ З ШВЕЦЫІ



**Ян Кузміцкі жыве ў Швецыі, але апошнім часам стаў даволі часта бываць на Беларусі, якую пакінуў яшчэ ў 1957 годзе. Прычын некалькі: па-першае, у Мінску і іншых гарадах ужо неаднойчы праходзілі выставы самабытнага мастака, а па-другое, зараз тут жыве яго любімая жонка Алена. Так, трэба было пакінуць радзіму амаль 35 год таму, каб, аб'ехаўшы паўзямлі, вярнуцца сюды зноў і знайсці тут сваё каханне, свой лёс.**

**-- Яна дала мне вялікі імпульс да творчасці, да самога жыцця, -- расказвае мастак. -- Серыю работ, якую вы зараз можаце ўбачыць у мінскім цэнтры вольнага часу інвалідаў, я зрабіў менш чым за 40 дзён. Такую колькасць карцін я раней маляваў цэлы год, а зараз працаваў па пятнаццаць-чатырнаццаць гадзін у дзень.**

**Алена Кліўжыц працавала ў Гродзенскім музеі мастацтваў, дзе і адбылася першая на Беларусі выстава мастака. Калі раней Ян Кузміцкі размаўляў з калегамі-мастакамі ці крытыкамі, яны не спяшаліся ўказваць яму на памылкі ў яго карцінах. А Алена адразу прапанавала тут ужыць трохі іншую фарбу, а тут -- нешта падправіць, работа атрымалася б больш дасканалай. Мастак паглядзеў і ... згадзіўся. З гэтага, напэўна, і пачалося іх каханне. Вось і сцвярджай, што калі хочаш дабіцца поспеху ў сардэчных справах, ніколі не спрачайся з мужчынам і не пярэч яму.**

**-- Спадар Кузміцкі, -- пытаюся я, -- як вы ацэньваеце змены, што адбыліся на Радзіме за той час, пакуль вас тут не было!**



**-- Мне падабаецца, толькі "падабаецца" -- гэта вельмі абстрактнае слова. Так, на радзіме хораша, прыемна, але калі бачыш, як тут жывуць людзі, становіцца цяжка на душы. Я некалі быў вельмі бедным хлопчыкам, у мяне не было бацькоў, увесь час хадзіў галодны і добра ведаю: калі пра чалавека не думаць, не даць яму магчымасці нармальна жыць і развівацца, ён ніколі не вырасце сапраўднай асобай. Так рабіць -- значыць, свядома гадаваць злодзея, дзікага чалавека. І не людзі нясуць адказнасць за палітыку, а палітыкі адказныя і за тую ж палітыку, і за эканоміку, і за лёсы людзей. Баюся, што, калі б я застаўся на Беларусі, з мяне ніколі не атрымалася б мастака...**

**Што тычыцца менавіта гэтай выставы, то яна для мяне асаблівая. У гэтых карцінах вельмі многа маіх пачуццяў і любові, бо ўспаміны аб цяжкім дзяцінстве, увесь гэты боль і дагэтуль нібы спіць у душы і толькі часам, як зараз, выходзіць наверх. Я зрабіў гэтую выставу для інвалідаў, якіх на Беларусі, на жаль, шмат і ў якіх вельмі цяжкае жыццё. Я і сам інвалід, і ведаю: гэтым людзям вельмі важна ўбачыць, што, нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды, такі ж чалавек, як і яны самі, вырваўся наперад і нечага дасягнуў. Мабыць, нехта, убачыўшы мае карціны, зразумее, што ён таксама на нешта здольны...**

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: Ян КУЗМІЦКІ: "Гармонія душ", "Цнатлівасць".**

# ТОЙ ЛЮД ЖЫВЕ, ШТО СВАЕ ПЕСНІ МАЕ

## ЛЮЛІ, СЫНОК, ЛЮЛІ...

Доўгі час нашы літаратуразнаўцы не ведалі, якое дачыненне мелі Багушэвічы да Свіранаў. Іхні радавы маёнтак быў у Кушлянах. Толькі паэтава ўнучка Станіслава Тамашэўская вытлумачыла: "Таму дзядуля быў народжаны ў Свіранах, што яго маці паходзіла з тых мясцінаў. А даўней жанчыны ездзілі раджаць да матак".

Паэтава маці была з роду Галаўнёў. Францішка, як відаць з метрыкі, і хрысцілі Галаўні, Тэкля і Фелікс. Тэкля была за хросную маці, Фелікс -- за сведку. Кім жа яны даводзіліся Францішку? Якія яны былі яму сваякі? На гэтыя пытанні даць адказ могуць толькі архіўныя дакументы, калі яны захаваліся.

Пра паэтаву маці мы таксама пакуль ведаем вельмі і вельмі мала. Нам нават даты яе жыцця невядомыя. Яе імя чамусьці не згадваецца ні ў адным вядомым нам дакуменце, апрача Францішкавай метрыкі. Не сустракаецца яно і ў следчых справах 1863 года. У гэтых паперах паіменна называюцца ўсе Багушэвічы, а пра маці ні слова, як быццам яе няма, як быццам яна не існуе, нібыта ўсе сямейныя падзеі адбываюцца па-за ёй. З архіўных папераў чуваць галасы ўсіх Багушэвічаў. Не чуваць толькі голасу паэтавай матулі. Вельмі загадкава ўсё гэта! Звалі маці Канстанцыя. Да нас дайшлі два фотаздымкі з яе выявай. На сямейнай фатаграфіі 1864 года яна стаіць побач з Францішкам, прытулілася да яго, ахінула яго. Левая рука па-мацярынску лягла на сынава плячо. Жанчына яна, відаць, была валявая, скупая на знешнюю ласку, але ўнутрана шчырая, высакародная. У маладыя ды й у падлеткавыя гады Францішак быў нечым вельмі падобны да маці. Яна гэта бачыла. І хоць усе дзеці ёй аднолькава былі дарагія, адчуваецца, душой яна хінулася да Францішка. У ім яна знаходзіла шмат свайго. Гэта яна, пэўна, калісь яму наспявала, напрарочыла ў Свіранах:

**Люлі, сынок, люлі, люлі!**
**Усе курачкі паснулі,**
**Ой, паснулі і курчаткі**
**Пад скрыдэлкам свае маткі;**
**А ты чаго не спіш, сынку,**
**Як бы чуў ліху гадзінку!**
**Можа, будзеш калі панам**
**Ці вялікім капітанам,**
**А як матка прыйдзе ў госці,**
**Ой, то будзе ёй радосці...**
**Сядзе матка ў кут на лаве.**
**Сын хлеб-соль прад**
**ёй паставе,**
**Ручкі, ножкі пацалуе,**
**Памілуе, пажалуе;**
**Пачастуе мядком сытным,**
**Блінком мякенькім**
**падсітным,**
**Піражочкам і з начынкай,**
**Верашчакай гарачынкай...**
**Люлі, сынок, люлі, люлі...**
**Бо ўжо курачкі паснулі.**
**Ой, то будзе рада матка,**
**Хоць і простая салдатка,**
**А ўсякі шапку здыме,**
**Як дазнаецца аб сыне.**
**Люлі, сынок, люлі, люлі,**
**Бо ўжо курачкі паснулі.**
**Можа, будзеш калі панам**
**Ці вялікім капітанам...**
**......................................**
**Ой, не будзь ты лепей панам,**
**Ні вялікім капітанам,**
**Будзь чым матанька радзіла,**
**Каб у госці не хадзіла,**
**Каб век з табой векавала,**
**Гаравала, працавала...**

Ёсць у гэтай "Калыханцы", безумоўна, штосьь матуліна, матчына: яе пяшчота, ласка, засцярога, замілаванне, жаданне бачыць свайго немаўлятку, як вырасце, проста добрым, шчырым чалавекам. Матчыны калыханкі, мусіць, паўставалі, абуджаліся не раз у Францішкавай душы, калі ён пісаў гэтую сваю пранікнёную песню. Кажуць жа: дзіцятка, слухаючы матуліны калыханкі, гайданкі ды розныя іншыя забаўлянкі, навівае іх на сваё сэрцайка, каб неўзабаве самому казаць: мама, та-та, ба-ба. Так яно, пэўна, было і ў Францішка. Праз калыханкі ён спазнаваў першую навуку, матуліны наказы, яе жаданні, галасы блізкіх і родных.

Максім Гарэцкі так прачытаў Францішкаву "Калыханку":

"Верш гэты -- адзін з самых лепшых твораў Багушэвіча; у ім скрозь чуецца незвычайна глыбокае, але нейкае па-беларуску мяккае, кволае, далікатнае засмучэнне; у лёгкіх, зыбкіх, плаўных, як тое калыханне, і вельмі прыгожых радках верша маці-беларуска, мужычка, пяе аб долі свайму сынульку. Гэта ўся маці-Беларусь, тая мужычка, пяе сваім сынам, што выходзяць на панічоў. Будзе частаваць сынпаніч сваю простую матку папанску, -- так летуценіць маці-беларуска, калыхаючы свайго дзіцёначка, і так магла спадзявацца і тагачасная Беларусь, простая і пагарджаная, гонару і славы за сваю мужыцкую інтэлігенцыю.

[Заканчэнне на 8-й стар.].

СТВАРАЛЬНІЦА НЯСВІЖСКАГА ТЭАТРА Францішка Уршуля РАДЗІВІЛ

# ШУКАЛА ПАЛЁГКУ І ПАРАДУ ПРАЗ ЛІТАРЫ

Цікавую старонку ў гісторыю беларускага Асветніцтва ўпісала нясвіжская княгіня Францішка Уршуля Вішнявецка-Радзівіл (1705--1753). Як сцвярджаюць даследчыкі, прырода пашкадавала ёй прыгажосці, але ўзамен дала талент, моцную волю і тэмперамент. Яна лічылася першым драматургам у Вялікім Княстве і Польскай Кароне, пісала свае і перакладала п'есы Мальера, Вальтэра. Яе нясвіжскі тэатр быў першым у дзяржаве, які ставіў творы французскіх асветнікаў.

Выдатная пісьменніца нарадзілася ў 1705 годзе ў Чартарыйску ў сям'і Вішнявецкіх, памерла ў Нясвіжы ў 1753 годзе і пахавана ў сямейным склепе пад касцёлам. У дваццацігадовым узросце выйшла замуж за нясвіжскага князя Міхала Казіміра Радзівіла Рыбаньку, вялікага гетмана княства. Князь на працягу дзесяткаў гадоў вёў падрабязны дзённік. Вось як ён апісвае сваё знаёмства з будучай жонкай.

Маці Міхала, вядомая нясвіжская княгіня Ганна з Сангушкаў, вырашыла сама падабраць сыну нявесту. Але знатныя прэтэндэнткі ў гаспадыні нясвіжскага замка, сярод якіх было некалькі асоб каралеўскага роду, падабраныя маткай, не спадабаліся Міхалу. У 1725 годзе адзін з сяброў князя расказаў яму пра дачку кракаўскага ваяводы Францішку Вішнявецкую. Насуперак волі дэспатычнай маці Рыбанька разам з сябрам адправіўся ў далёкае падарожжа, каб пабачыць маладзенькую адукаваную князёўну.

Прыехалі ў замак Вішнявецкіх ужо пад вечар. Увайшоўшы ў вялікую прыгожую залу, што зззяла агнямі шматлікіх свечак, убачылі мноства моладзі. Сябар, які добра ведаў князёўну ў твар, адлучыўся, каб знайсці гаспадароў замка. Князь Міхал застаўся адзін. Ён сам спрабаваў вызначыць маладую Вішнявецкую, пераходзячы ад адной групоўкі моладзі да другой. Нарэшце яго ўвагу прыкавала маладая бліскучая прыгажуня, каля якой ён затрымаўся на доўгі час. На знакі сябра, які клікаў яго да сапраўднай князёўны, ён доўга не звяртаў увагі. Надышоў час вячэры. Князь Міхал ведаў, што князёўна павінна сядзець насупраць яго за вялізным сталом каля сваёй маці. Сеўшы на сваё месца, ён крытычна агледзеў маладую Вішнявецкую і потым са скепсісам запісаў у сваім дзённіку: "Стол незвычайна вялікі, і хаця свечак было моц, я і там прыглядзецца не мог, князёўну пасадзілі на адным канцы стала, а мяне на другім -- што мог праз свечкі пабачыць, то мне твар прыгожым здаўся, але вочы косыя. Пасля вячэры мы заселі ў пакоях князёўны, там досыць цёмна было. Князёўна мала гаварыла, толькі другія дамы. У гэты вечар я зусім не меў выпадку пабачыць яе твар, адчуць яе розум. Мы пайшлі на начлег, і я ўсю ноч не спаў, шкадуючы, што сюды прыбыў".

Аказалася, што хітрая князёўна пасадзіла ў час вячэры замест сябе за сталом іншую дзяўчыну -- непрыгожую сяброўку, каб мацней было ўражанне на заўтра ад блізкай сустрэчы. Раніцай, сапраўды, пачуцці князя рэзка змяніліся. Калі князь збіраўся вельмі рана паехаць дадому без развітання, сябар упрасіў яго адведаць дзяўчыну ў яе спальні і развітацца. Згадзіўшыся пасля настойлівых угавораў, Міхал, увайшоўшы ў пакой князёўны, пабачыў, як яна ў прыгожым пеньюары з распушчанымі раскошнымі валасамі кленчыць каля ложка і моліцца па французскай кніжцы. Узяўшы малітоўнік у рукі, Міхал адкрыў яго знянацку на прарочай фразе: "Завяршы тое, што пачаў, я дапамагу табе". Тут да князя і прыйшло вялікае каханне. У "Дыярыушу" (дзённіку) ён пра гэта запісаў так: "Я руку пацалаваў і з гэтага моманту кахаць страшэнна пачаў. Розныя гаворкі вялі мы з сабою. Пайшлі на абед, я не дужа еў, толькі сыціўся мілай асобай князёўны... Пасля абеду танец пачаўся. Мы с князёўнай трохі танцавалі, бо седзячы з сабою гаварылі, пасля вячэры зноў танцавалі. Усё больш унутры пашыралася сімпатыя да князёўны. Адным словам, з поўным задавальненнем пайшоў я на месца начлегу і прызнаў, што калі Боская воля чым дырыжуе, то ад яе выкруціцца нельга. Учарашнюю ноч я не спаў ад клопатаў, сёння ж ад задавальнення не ведаю, ці спаць буду".

Праз два дні адбыліся заручыны. Рыбанька піша: "Пасля абеду ўжо з большай фамільярнасцю даў я свой пярсцёнак князёўне, а яе зняў з пальца і ўчыніў ён першы гвалт, бо пацалаваў яе ў куце ля акна, маняючы пярсцёнкі".

Праз некалькі месяцаў зноў жа насуперак маці, згулялі пышнае вяселле, якое працягвалася некалькі дзён. Але і ў вясельным тлуме Радзівіл не забываў пра "Дыярыуш". 22 красавіка ён запісаў: "Была вельмі вялікая вячэра, пасля якой танцавалі цырыманіяльныя танцы. Быў прыгожы феерверк. Ледзь не днём пайшлі класціся. Паколькі я ніякай жанчыны на сумленні не ведаў і жонка чыстая і нявінная была, то так жа ўсталі, як і пакладіся". У сваіх запісах Міхал вельмі шчыры, што нават даходзіць да цынізму: "З той жа пышнасцю прайшоў увесь дзень. Ужо я сам стараўся раней пайсці спаць. Тут адразу пазбавіў дзявоцтва і адразу ж падзякаваў Богу, што мне чыстую даў дзяўчыну, якую хай Бог ахоўвае, каб мяне пахавала".

Атрымаўшы бліскучую адукацыю і маючы літаратурны талент, Уршуля Радзівіл нават пісьмы мужу пісала вершамі. Яе эпістальрны жанр з'яўляецца пэўным дакументам эпохі і вышэйшага стылю, звязанага са звычкамі жыцця і месцам у грамадстве і, канешне, выхаваннем. Вось невялікая вытрымка з яе ліста мужу (надрукаваны Е.Мысельскім у артыкуле "Матка Пане Каханку").

"Найяснейшы і каханы князю, з якім мяне звязала мілосць і замужжа! Калі нас раздзяляе далёкая краіна, маё сэрца не можа дачакацца, каб пабачыць князя. Шукаю сабе палёгку і параду праз літары, выражаючы свае пажаданні, сум сэрца. Але цяжка знайсці словы, якія могуць пе-



радаць мой сум, мае доўгія, цяжкія хвіліны расстання. Але ты заўсёды стаіш у маіх вачах. Людзі стараюцца дапамагчы мне ў расстанні, але найбольш мне дапамагае мая любоў. Як толькі засвеціць ясное сонейка, ты ўжо стаіш у маіх вачах, бо каханне злучае нас у адну істоту, даючы слодыч пацалунку. Як толькі адкрываюцца мае павекі ад сну, думаю адразу, як там адчувае ў далёкім падарожжы мой каханы, сэрца дрыжыць, плача, рыкыць за табою.

Адказваю людзям толькі пад прымусам, больш маўчу. Некаторыя людзі могуць палічыць мяне нават нямою. Як толькі апранўся, з сабою нашу мае каханыя сны. Усё мне без цябе нясмачнае, нікчэмнае, непатрэбнае. Нашто мне без цябе найлепшы дзень, добрае надвор'е, музыка, танцы, спевы, мода. Кожны, хто мяне ведаў, цяпер мяне не пазнае, бо бачыць мяне ў плачы, адчаі, задуменні.

Звяртаюся да Бога і пытаюся, ці я была прычынаю такога доўгага расстання. Ці гэта справядліва, што хто кахае верна і праўдзіва, павінен так мучыцца? Няўжо я толькі на гадзіну гасцюю ў тваім сэрцы? Не магу болей чакаць так доўга. Вяртайся, прашу цябе, я застаюся тваёй жонкай і вернай слугою.

**Пісала Францішка з сям'і Вішнявецкіх, а цяпер Радзівілова".**

Талія і Мельпамена -- старажытныя музы грэчаскай міфалогіі, якія апякалі камедыю і трагедыю, пасяліліся ў Нясвіжы намнога раней, чым у некаторых іншых гарадах Рэчы Паспалітай.

Першае ўпамінанне аб відовішчы ў Нясвіжскім замку адносіцца да 1740 года, калі тут замежныя артысты паставілі п'есу "Прыклад справядлівасці". У наступныя гады там жа былі пастаўлены ўпершыню ў Беларусі камедыі Мальера і знакамітая "Заіра" Вальтэра, а таксама творы мясцовых аўтараў.

Стварэнне арыгінальнага рэпертуару нясвіжскага тэатра цесна звязана з Уршуляй Радзівіл. Пры жыцці княгіні на нясвіжскай прыдворнай сцэне пераважна ставіліся яе ўласныя п'есы альбо пераклады камедый і трагедый французскіх драматургаў. Выкарыстоўваліся сюжэты з арабскіх казак "Тысяча і адна ноч", славянскіх легенд.

Францішка Уршуля цудоўна спявала, часта са знакамітай нясвіжскай капэлай, у якой налічвалася больш 25 музыкантаў-прафесіяналаў, значна папоўніла замкавую бібліятэку, удзельнічала ў арганізацыі работы другой нясвіжскай друкарні.

Гераіні камедый і трагедый, напісаных княгіняй Радзівіл, пераважна ахвяры мужчынскага фальшу, двудушша. Гэта пяшчотныя, цудоўныя асобы, якія церпяць ад вераломства каханых. Сюжэты твораў Уршуля чэрпала з асабістых перажыванняў: яна вельмі раўнавала свайго мужа, які часта пакідаў Нясвіж. П'есы пісаліся як павучанне яму перад далёкай дарогай. Гераіні п'ес "Дасціпнае каханне" (1746), "Суддзя, пазбаўлены розуму" (1748), "Каханне нараджаецца ў вачах" (1750), "Несумленнасць у пастцы" (1751), якія самааддана і пакорліва кахаюць сваіх мужоў, павінны былі пераканаць князя, што сямейная вернасць заўсёды ўзнагароджваецца лёсам, а здрада жорстка караецца.

Тэматыка апошніх твораў Францішкі Уршулі ўжо некалькі іншая. Павучанне ў іх адрасуецца не мужу, а дзецям. Так, у камедыі "Каханне -- сапраўдны мастак" (1752) расказваецца пра Галезія -- сына Дэмакрыта і прыгажуню Філідыю -- дачку Арысціда. З трох сыноў Дэмакрыта толькі адзін Галезій грэбуе навукай. Бацька, саромеючыся сына-невука, пасылае яго ў вёску, дзе ён павінен пасвіць жывёлу. Аднойчы Галезій убачыў на лузе дзяўчыну, якая спала, і з першага позірку закахаўся ў яе. Прачнуўшыся, дзяўчына ўцякла ад юнака. Ёй прыйшліся не даспадобы грубыя звычкі пастуха. Прысаромлены Галезій вырашыў вучыцца -- акружыў сябе настаўнікамі, якія ў кароткі час дапамаглі яму нагнаць упушчанае. Нарэшце з героем адбываецца рэзкая метамарфоза. Калі Галезій, выхаваны і адукаваны, зноў сустрэўся з дзяўчынай, перамога яму была забяспечана.

Хаця дзея п'есы адбываецца ў старажытнай Грэцыі, аўтар умела выкарыстоўвае мясцовыя, нясвіжскія рэаліі і нават аўтабіяграфічныя моманты. Сваімі незвычайнымі дабрачыннасцямі Філідыя нагадвае княгіню, якой яна была ў маладосці. Гераіня адукаваная, прыгожая, цудоўна спявае.

Аўтабіяграфічныя і іншыя п'есы Францішкі Уршулі Радзівіл. Гаварылася ў іх пра Турцыю, старажытны Рым, але гледачы ўсё ж згадвалі Нясвіж і яго ваколіцы. Упаміналіся цудоўныя гаі, велічны будынак летняй рэзідэнцыі, зеляніна муравы і крэслы з дзірвану. Прысутныя жвава рэагавалі, успрымаючы завуаліраваны намёк: ды гэта ж Альба з яе тэатрам пад адкрытым небам. У розных "антычных" і "ўсходніх" творах княгіні ўпамінаецца знакаміты звярынец, які знаходзіўся ў Альбе, "месца адзіноты", акружанае з трох бакоў вадою сажалкі. Тут жыхары Нясвіжскага замка, як і героі п'есы, любілі хавацца ў хвіліны перажыванняў. Нарэшце, дзяўчаты, якія збіраюць у ваколіцах горада зёлкі, папаўняюць імі нясвіжскія аптэкі. Такім чынам, традыцыйныя сюжэты напаўняліся мясцовым каларытам.

П'есы княгіні Радзівіл ставіліся ў замку, у прыгарадзе Нясвіжа Альбе і ў "зялёным" тэатры пад назвай "Кансаляцыя". У 1747 годзе ў замку пачалося будаўніцтва спецыяльнай тэатральнай залы, якую афармлялі нясвіжскія мастакі -- Гескія, Мікалаеўскі, мастак з-пад Львова Скшыцкі і іншыя. Асноўныя работы па абсталяванню тэатра прыйшліся на зіму 1748 года. Галоўны архітэктар Казімір Ждановіч паведамляў князю: "Мастакі ў камедыхаўзе спяшаюцца, як могуць, але ім перашкаджаюць маразы".

Ждановіч меў непасрэдныя адносіны да будаўніцтва тэатраў у Альбе і "Кансаляцыі". Другі з іх знаходзіўся за замкавым ровам каля "Рыцарскай школы" і адным бокам выходзіў на нясвіжскі рынак. Гэта быў першы стацыянарны тэатр на тэрыторыі Беларусі. Сцэна ў "Кансаляцыі" мела выгляд ледзь скошанай земляной пляцоўкі. Амфітэатр на прыродным узгорку быў разлічаны на тысячу гледачоў. Замест куліс выкарыстоўваліся тры рады стрыжаных раслін. Першапачаткова сцэна была аснашчана толькі нескладанымі заднікамі і прыстасаваннямі для іх змены. Але да канца 1748 года сцэна ўжо магла падымацца, асвятляючыся знізу.

Спачатку прыдворны тэатр Радзівілаў быў аматарскім. На яго сцэне часта выступалі члены княжацкай сям'і, сваякі, госці. Цікавы, напрыклад, запіс Рыбанькі ад 18 чэрвеня 1758 года, дзе паведамляецца, што ў п'есе Ф.У.Радзівіл "Каханне нараджаецца ў вачах" ролю атрымаў Ігнат Богуш, мечнік віленскі, Палікрытай была дачка гетмана Кацярына Жавуская, Дарыдай-Тэафіля Радзівіл, Лентыдасам -- А.Агінскі, ашмянскі староста. Акцёры падбіраліся таксама з выхаванцаў кадэцкай школы, адкрытай у Нясвіжы ў 1745 годзе. Рэжысёр і пастаноўшчык спектакляў Якуб Фрычынскі, які працаваў на Радзівіла 34 гады, у данясенні князю часта скардзіўся, што кадэты хварэюць, позна вяртаюцца з летніх вучэнняў і таму цяжка праводзіць з імі тэатральныя рэпетыцыі.

У канцы 40-х -- пачатку 60-х гадоў XVIII стагоддзя тэатральнае жыццё ў Нясвіжы было вельмі інтэнсіўным. У дзённіку Рыбанькі часта сустракаем запісы такога тыпу: "Пасля абеду з усёй кампаніяй ездзілі ў Альбу, дзе з прыемнасцю глядзелі камедыю, паказаную дзецьмі і дваровымі. Мая жонка пастаралася. Быў феерверк-ілюмінацыя. Вярнуліся ў Нясвіж ноччу".

Пасля смерці княгіні ў 1753 годзе Якуб Фрычынскі сабраў яе драматычныя творы і выдаў асобнай кнігай. Рэпертуар Нясвіжскага тэатра змяніўся: замест камедый і трагедый пачалі перавагу аддаваць операм і балетам.

**Клаўдзія ШЫШЫГІНА.**

# ТОЙ ЛЮД ЖЫВЕ, ШТО СВАЕ ПЕСНІ МАЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Але зусім што іншае выходзіла ў жыцці. Багушэвіч, разгарнуўшы першую старонку нашага сведамага адраджэння, адразу і першы за ўсіх убачыў, што найгоршая бяда ў тым, што з-за панавання чужой культуры беларускія дзеці адракаюцца ад усяго роднага, бо яно ж — "простае", нічога супольнага не маючае з прынятай імі "панскай" культурай. Не дзіва, што сын-рэнегат для свайго панства пакідаў бацькоў, бо паны пагарджалі і іх мужыцкай беларускай мовай, і ўсім тым, што нагадвала вёску. Чужая культура разлучала дзяцей з бацькамі. І не дзіва, што народны розум пяяў:

**Ой, не будзь ты лепей панам,**
**Ні вялікім капітанам,**
**Будзь, чым матанька радзіла,**
**Каб у госці не хадзіла,**
**Каб век з табой векавала,**
**Гаравала, працавала...**

Багушэвічава "Калыханка", паводле слоў Максіма Гарэцкага, гэта лірычная песня на народны лад. Яна складзена бышцам на сацыяльныя матывы, але для беларуса яна мае больш нацыянальных прыкмет. "Калыханка" — спрадвечная песня аб тым, як беларускія дзеці, выходзячы ў паны, адракліся ад сваіх матак; аб тым, як беларуская інтэлігенцыя адраклася ад свайго народа. За хімернае панства яны плацілі згубай свае нацыянальнасці і духовым выгнаннем з бацькавай хаты...

Літаратурная вартасць "Калыханкі" вялікая, аднак яе значэнне — гістарычнае. "Калыханка" спарадзіла цэлы кірунак у нашай літаратуры, каторы зрабіў сваю сугалдавальную работу. У вершы "Ахвяра" бышцам дапаўняюцца думкі, выказаныя ў "Калыханцы", падкрэслена іх нацыянальнае значэнне:

**Маліся, бабулька, да бога,**
**Каб я панам ніколі не быў.**
**..............................**
**Каб людзей прызнаваў**
**за братоў,**
**А багацце свае меў за іх,**
**Каб за край быў умерці гатоў,**
**Каб не прагнуў**
**айчызны чужых,**
**Каб я бога свайго не акпіў,**
**Каб не здрадзіў**
**за грошы свой люд...**

Нашы паны, як ведаем з гісторыі, былі ў пераліччаных грахах вельмі ж вельмі вінаваты".

Вось якім глыбокім зместам вызначаецца Багушэвічава "Калыханка".

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

**НА ЗДЫМКАХ: бацькі паэта Канстанцыя і Казімір БАГУШЭВІЧЫ.**





*СЯБРОЎСКІ ШАРЖ.*




"Язэп ЛЁСІК". Шарж Янкі КАШКЕЛЯ.

Публікацыя Л. НАЛІВАЙКІ.

## З МІНУЛАГА

### ЦАРКОЎНАПРЫХОДСКАЯ ШКОЛА Ў ЛУНІНЦЫ

У канцы мінулага стагоддзя ў вёсцы Лунінец з ростам чыгуначнай станцыі ўзрасла колькасць насельніцтва. Упраўленне Палескіх чыгунак, клапоцячыся аб адукацыі сваіх служачых, у студзені 1890 года звярнулася ў Свята-Мікалаеўскае брацтва пры лунінецкай Крыжаўзвіжанскай царкве з прапановай адкрыць у Лунінцы царкоўнапрыходскую школу. Ужо праз месяц Упраўленне чыгунак паведаміла ў Савет Мінскага Епархіяльнага Свята-Мікалаеўскага брацтва, што яно выдзеліла памяшканне для вучылішча і кватэру для настаўніка, абавязуецца плаціць настаўніку 240 рублёў у месяц, а выкладчыку Закона Божага — 60, аплачваць ацяпленне і асвятленне школы. Праз месяц у "Мінскіх Епархіяльных ведамасцях" была змешчана аб'ява "аб вакансіі пасады настаўніка пры Лунінецкай царкоўнапрыходскай школе". А пакуль у сакавіку таго ж года Савет брацтва даручыў святару Лунінецкай царквы Андрэю Бярнадскаму адкрыць заняткі ў школе, часова падабраўшы сабе ў памочнікі каго-небудзь з адукаваных і "вядомых і цалкам добранадзейных асоб". 7 красавіка Бярнадскі паведаміў у Савет брацтва, што заняткі пачнуцца праз два дні, настаўнікам часова прызначаны Леў Радзялоўскі, які ў 1889 годзе скончыў курс Мінскай духоўнай семінарыі.

Школа была аднакласнай, для дзяцей служачых станцыі і бліжніх раз'ездаў. Урачыстае адкрыццё адбылося 17 красавіка 1890 года і было апісана ў "Мінскіх Епархіяльных ведамасцях". Акрамя жыхароў Лунінца на адкрыццё прыехалі госці з Упраўлення Палескіх чыгунак, кіраўніцтва станцыі і дэпо, духавенства з Мінска.

Пры адкрыцці школы ў ёй налічвалася 20 дзяўчынак і 30 хлопчыкаў, у 1913 годзе тут вучылася 86 хлопчыкаў і 10 дзяўчынак.

**НА ЗДЫМКУ: вучні Лунінецкага царкоўнапрыходскага вучылішча, удзельнікі спектакля "Жыццё за цара", пастаўленага ў гонар 300-годдзя Дома Раманавых.**

**Леў КОЛАСАЎ.**



## САЛІРАВАЛА МАНТСЭРАТ КАБАЛЬЕ,..

а за пультам стаяў наш маэстра — галоўны дырыжор Акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі Аляксандр Анісімаў. Канцэрт славутай опернай "зоркі" Мантсэрат Кабалье адбываўся ў Маскве. Прымадонна выступала ў суправаджэнні расійскага аркестра, кіраваць якім быў запрошаны А. Анісімаў. Маэстра, дарэчы, зусім нядаўна правёў у Мінску вялікі філарманічны вечар за пультам сімфанічнага аркестра роднага ДАВТа: гучала "Карміна Бурана" К. Орфа, "Паэма экстаза" А. Скрабіна, у канцэртным абліччы паўставалі старонкі оперы Д. Шастаковіча "Кацярына Ізмайлава". І ўжо тут саліравалі "зоркі" беларускай опернай сцэны...

## АДНАТОМНІКАМ ВАСІЛЯ БЫКАВА

папоўнілася міжвыдавецкая серыя "Школьная бібліятэка". У кнігу "У тумане", выпушчаную выдавецтвам "Юнацтва", акрамя аднайменнай аповесці ўвайшла і аповесць "Аблава", а таксама раман "Кар'ер". Гэтыя творы чытачу добра вядомы, але ж яны ў першую чаргу адрасуюцца старшакласнікам, а новае пакаленне чытачоў Васіля Быкава ці не ўпершыню атрымае магчымасць заглыбіцца ў свет яго прозы — праўдзівай, аб'ектыўнай, бескампраміснай у сцвярджэнні высокіх маральных якасцей і ў адмаўленні бесчалавечнасці і зла.

## "КНІЖКІ З БЕЛАРУСКАЙ НІЗКІ" —

такую назву мела мерапрыемства, што прайшло ў Ганцавіцкім раёне і якое паклала пачатак Тыдню літаратуры для дзяцей. Была падрыхтавана цікавая кампазіцыя па кнігах для маленькіх — "Заўзятары" Алеся Пісьмянкова і "Ехаў Чыж у Парыж" Уладзіміра Марука. На свята прыехалі самі аўтары і знакаміты бард Алег Атаманаў. Першая сустрэча адбылася ў раённым Доме культуры, дзе сабраліся вучні з усяго раёна. Наведаліся госці і ў Ганцавіцкую сярэднюю школу, а потым была паездка ў Будчанскую сярэднюю школу. І там панавала атмасфера шчырасці, сардэчнасці, ударыла чароўнае беларускае слова.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 693. Падпісана да друку 27. 3. 1995 г.